


# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

30 МАЯ 2003 г. № 22/4208 КОШТ 530 РУБ.

*Валянціна КАДЗЕТАВА:*

"Як вярнуць кнізе былы аўтарытэт, а пісьменніцкаму званню — належную павагу?"



4-5

"Анталогія — своеасаблівая хрэстаматыя па гісторыі беларускай паэзіі", — *Алесь БАДАК* "Кветкі і крыжы"

6-7




*"КАРАНАЦЫЯ МЕНДАЎГА" —* урывак з гістарычнай паэмы Міколы АРОЧКІ

8



# РАСІЙСКАЯ ПРЫМА-БАЛЕРЫНА НА БЕЛАРУСКАЙ СЦЭНЕ

*Сёння славутая Анастасія ВАЛАЧКОВА танцуе ў "Лебядзіным возеры" на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра балета.*





## ...ПАКЛІКАЎ ЖУРАЎЛІНЫ ВЫРАЙ

*"Жыццёвыя абставіны, асабліва ў апошнія гады, складваліся для яго няўдзячна і жорстка", — піша Віктар ГАРДЗЕЙ у нарысе пра Міколу ФЕДЗЮКОВІЧА.*

14-15

Глядзіце на стар.

# КОЛА ДЗЁН

*Вось і лета прыйшло...*

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

20 чэрвеня 2003 года будзе падпісаны беларуска-расійскі кантракт аб стварэнні і вывадзе на арбіту Беларускага малога касмічнага апарата "БелКА". Такая дамоўленасць была дасягнута на пасяджэнні рабочай групы з прадстаўнікоў НАНБ, Міністэрства абароны, прамысловых прадпрыемстваў Беларусі і Расійскага авіяцыйнага касмічнага агенцтва "Расавіякосмас" па пытанні стварэння Беларускай касмічнай сістэмы дыстанцыйнага зандзіравання.

## ЗМЯНЕННІ ТЫДНЯ

У маі 2003 уступіў у сілу новы латвійскі закон аб іміграцыі. У сувязі з гэтым змяніліся патрабаванні для атрымання візы ў Латвію. Цяпер для атрымання латвійскай візы беларускім грамадзянам патрабуецца запрашэнне ад фізічнай альбо юрыдычнай асобы з Латвіі, пацверджанае Упраўленнем па справах грамадзянства і міграцыі, а таксама страхавы поліс, што гарантуе пакрыццё расходаў на магчымыя медыцынскія паслугі. Уязную візу ў Латвію нельга будзе атрымаць на падставе турыстычнай альбо курортнай пуцёўкі. Адменены і групавыя візы. Для атрымання візы неабходная таксама наяўнасць у наведвальніка краіны пэўнай сумы грошай — 40 еўра ў суткі пры пражыванні ў гасцініцы і 20 еўра для тых, хто спыніўся ў людзей, якія іх запрасілі.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У нашай сталіцы на 1 красавіка гэтага года колькасць насельніцтва дасягала 1.728.400 чалавек. Гэта на 2,1 тысячы больш, чым было ў пачатку года. І ўсё ж прырост адбыўся з прытокам мігрантаў, бо калі б іх не было, то з-за перавышэння смяротнасці над нараджальнасцю за першы квартал насельніцтва Мінска скарацілася б на 455 чалавек. Найбольшыя натуральныя страты панёс Заводскі раён — 163 чалавекі.

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Да 2008 года на Заходняй Дзвіне будзе створаны каскад з чатырох гідраэлектрастанцый. Першая станцыя магутнасцю 28 мВт будзе пабудавана да канца 2006 года. У планах Мінэнерга — адкрыццё ГЭС у Полацку, Віцебску і Бешанковічах. Увод каскада ГЭС па Заходняй Дзвіне прынясе 3-4 працэнты ўласнай энергіі ад агульнай колькасці.

## ТЭНДЭР ТЫДНЯ

У ліпені ў Нацыянальнай авіякампаніі з'явіцца першы самалёт "Боінг 737/500", і ў гэтым жа месяцы ён пачне выконваць рэйсы. А ў чэрвені заканчваецца тэрмін правядзення аб'яўленага авіякампаніяй "Белавія" тэндэра, які прадугледжвае закупку гэтага авіялайнера на ўмовах лізінгу.

## БАНКНОТА ТЫДНЯ

Падчас адкрыцця Беларускага фестывалю мастацтваў "Мірскі замак-2003", які сёлета пачнецца 31 мая на тэрыторыі замкавага комплексу "Мір", у прысутных будзе магчымасць першымі набыць памятную банкноту "Замкавы комплекс "Мір" вартасцю 50.000 рублёў. Гэтая памятная банкнота ўведзена ў абарачэнне 22 мая. А выпуск яе прысвечаны ўключэнню замкавага комплексу "Мір" у спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Тыраж выпуску складае тысячу экземпляраў. Банкнота з'яўляецца законным плацёжным сродкам, абавязковым да прыёму па намінальным кошце пры ўсіх відах плацяжоў.

## РАСКЛАД ТЫДНЯ

З 1 чэрвеня 2003 года на Беларускай чыгунцы ўводзіцца новы расклад руху пасажырскіх і прыгарадных цягнікоў. У расклад уводзіцца новы маршрут фарміравання Беларускай чыгункі № 68/69 Брэст-Валгаград. Ён будзе курсіраваць 2 разы на тыдзень і пройдзе праз гарады Мінск, Гомель, Бранск, Ліпецк, Тамбоў, Саратаў. Цягнік Мінск-Еўпаторыя будзе ісці па новым раскладзе не праз дзень, як было, а штодзённа. Прыбалтыйскі цягнік № 369/360 Рыга-Сімферопаль, у сувязі з рамонтам чыгуначнага ўчастка Рыга-Баранавічы, цяпер пройдзе не праз Вільнюс і Баранавічы, а праз Мінск. Гэта не ўсе змены, якія адбудуцца з 1 чэрвеня, таму варта перад паездкай удакладніць свой час і маршрут вандроўкі.

## УЗРОВЕНЬ ТЫДНЯ

Паводле дадзеных амерыканскай грамадскай арганізацыі "Save the Children", наша краіна займае 21-е месца з 117 краін свету па ўзроўні дабрабыту маці і іх дзяцей. Мы абагналі ў гэтым плане ўсе краіны СНД: Расія знаходзіцца на 24-м месцы, Казахстан — на 26-м, Кыргызстан, Узбекістан і Украіна — на 32-м, Грузія — на 44-м, Азербайджан — на 47-м, Таджыкістан — на 56-м.

## ПАДАРУНАК ТЫДНЯ

Першы нацыянальны тэлеканал падрыхтаваў выдатны падарунак беларускім аматарам спорту. Упершыню ў гісторыі беларускага тэлебачання закуплена эксклюзіўнае права на трансляцыю фінальнай серыі гульняў Кубка Стэнлі па хакеі. Пачынаючы з 28 мая паклоннікі хакея змогуць убачыць усе гульні дзвюх мацнейшых на гэты момант каманд Нацыянальнай хакейнай лігі (НХЛ). Упершыню за самы ганаровы трафей сусветнага клубнага хакея будзе змагацца выхаванец беларускага хакея Руслан Салей. Яго клуб "Анахайм Майці Дакс" гуляе ў рашаючых матчах з пераможцам пары "Атава"—"Нью-Джэрсі".

ФЕСТЫВАЛІ

# «ПАЎНОЧНЫЯ КВЕТКІ» — АДЗНАКА ВЯСНЫ

Заключны канцэрт Міжнароднага фестывалю "Мінская вясна-2003" быў адметны прэм'ерай. Прагучала Сёмая сімфонія "Паўночныя кветкі" Андрэя Мдзівані ў новай рэдакцыі — для камернага хору, салістаў і камернага аркестра. Яе выканала капэла "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута. Сталы чытач "ЛіМа" ведае, што сімфонія стваралася для гэтага калектыву, які ў той час называўся Мінскім абласным камерным хорам і працаваў у Маладзечне. Дарэчы, сама задума ўвесці хор ў сімфонію з'явілася ў А. Мдзівані пасля канцэрта артыстаў з Маладзечна ў Смаленску, дзе прысутнічаў кампазітар. Потым ён так пісаў у сваім артыкуле "Паўночныя кветкі" для Аляксея Шута": "Мінскі абласны камерны хор настолькі мяне "заразіў" сваімі спевамі, што натхніў на стварэнне сімфоніі "Паўночныя кветкі" — для хору Аляксея Шута і сімфанічнага аркестра ("ЛіМ", 11.03.94 г.) Мастацкаму кіраўніку капэлы "Sonorus" і прысвечаны гэты твор, які, дарэчы, у тым жа 1994-м прагучаў упершыню ў выкананні хору А. Шута і Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі.

Шчаслівы выпадак у мастацтве, калі паміж кампазітарам і выканаўцам узнікае цесная творчая сувязь і блізкасць поглядаў. Сапраўды, "Паўночныя кветкі" сталіся "знакавым" опусам для галоўнага дырыжора капэлы. "Паўночныя кветкі" — адзін з самых любімых маіх твораў, — прызнаецца А. Шут. — Ён — унікальны, адрозніваецца ад усіх іншых твораў Андрэя Мдзівані. Я сутыкаўся з яго музыкай на працягу ўсёй сваёй дзейнасці, але кампазіцыя "Паўночныя кветкі" мяне проста ўразіла. Да яе стаўлюся асабліва беражліва, да яе з прыемнасцю вяртаюся і кожны раз раблю для сябе зусім новыя адкрыцці".

Назву твору даў літаратурны альманах XIX ст. "Паўночныя кветкі". Праз гэты галоўны вобраз сімфоніі высвечвае глыбіня філасофскай думкі пра Чалавека, пра яго спрадвечныя мары, жаданні, пачуцці, сумненні, пошукі шчасця, пра радасць і трагічнасць жыцця, пра вялікую прыгажосць навакольнага свету. Паўночныя кветкі — асаблівы свет, дзіўны і тонкі, рэдкая з'ява прыроды, што выклікае захапленне. Іх вобраз у сімфоніі робіцца сімвалам самой Прыгажосці, яе крохкасці, мімалётнасці, амаль прывіднай (нібыта міраж). Прыгажосць няўлоўная, хуткаплынная, як само жыццё. І незразумелая. Як цуд жыцця. Як Каханне. Каханне ў такіх розных праявах: чыстай, узвышанай, злачыннай (у сімфоніі — дачкі да бацькі)... Тэма кахання аб'ядняла выкарыстаныя кампазітарам вершы К. Бальмонта, В. Жукоўскага, Авідзія, біблейскую "Песню Песняў", народныя тэксты са збору У. Даля.

Прыцягненне паэтычнага слова ў жанр сімфоніі для Андрэя Мдзівані вельмі паказальнае. Яно ўдакладняе канцэпцыю твора, узбагачае яго філасофскі сэнс. Акрамя таго, характарызуе індывідуальны кампазітарскі стыль: спалучэнне аркестравага гучання з выразнасцю харавых і сольных спеваў. У новай рэдакцыі вядучая роля нададзена харавой партыі. Своеасаблівасць мастацкага мыслення аўтара адлюстравалася і ў яркай эмацыянальнасці, тэатральнай рэльефнасці музычных вобразаў і інш.

Магчыма, гэткая адметнасць яшчэ і ад таго, што твор напачатку задумваўся як сцэнічнае дзейства. Ёсць ідэя зрабіць менавіта тэатральную версію сімфоніі. Маэстра Шут марыць паставіць "Паўночныя кветкі" як музычна-драматычную кампазіцыю, знайсці арыгінальнае візуальнае ўвасабленне. Так што творчыя адкрыцці працягваюцца.

**Алена КАЛЕСНІК**

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

***18 мая – Міжнародны дзень музеяў. Бадай, няма ніводнага музея ў свеце, які б не ладзіў у гэты святочны дзень якое-небудзь адметнае мерапрыемства.***

Вядучая мерапрыемства, загадчыца навукова-асветніцкага аддзела музея Янкі Купалы Людміла Давідоўская распачала імпрэзу радкамі з вышэйзгаданай кнігі Леаніда Дранько-Майсюка:

*На Беларусі зоркі —*
*слёзы Бога...*

Намеснік дырэктара музея Алена Бурбоўская расказала пра Міжнародны дзень музеяў, акрэсліла значнасць музеяў у сацыяльна-культурным жыцці краіны, унікальнасць музейных калекцый. У сваім выступленні загадчыца аддзела выдавецтва "Кніга", дзе і ўбачыў свет "Паэтаграфічны ра-

# ДА МІЖНАРОДНАГА ДНЯ МУЗЕЯЎ

Так, у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя кнігі Леаніда Дранько-Майсюка "Паэтаграфічны раман".

*Яны цякуць у кожную душу.*
*Ніколі ў гэтых зорак і нічога*
*Я не прасіў,*
*а сёння папрашу...*



ман", Людміла Несцяровіч паведаміла пра стасункі з Леанідам Дранько-Майсюком і пра перспектыўны план выдавецтва.

Дранько-Майсюк расказаў пра гісторыю напісання "Паэтаграфічнага рамана", частка з якой прысвечана яго сябру, паэту Уладзіміру Някляеву, пра новую кнігу "Цацачная крама", над якой паэт яшчэ працуе. Безумоўна, чыталіся і вершы пра каханне.

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**
**старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы**

***Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА***

*На фотаздымку: намеснік дырэктара музея Янкі Купалы Алена БУРБОЎСКАЯ уручае паэту памятныя сувеніры музея.*

СУСТРЭЧЫ

# УШАНАВАЛІ ТАЛЕНТ

Асоба Уладзіміра Скарынкіна ў беларускай літаратуры займае адметнае месца. Асаблівую значнасць, вядомасць і павагу прынесла яму перакладчыцкая дзейнасць. Пераклад "Боскай камедыі" Дантэ стаўся этапнай падзеяй, сапраўднай творчай удачай аўтара. Нездарма яго праца была адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі, італьянскай прэстыжнай прэміяй.

Нядаўна ў Купалаўскім музеі прыхільнікі таленту Уладзіміра Максімавіча мелі магчымасць сустрэцца з творцам, яго сябрамі і паплечнікамі. Разам з У. Скарынкіным на сустрэчу ў музей прыйшлі пісьменнікі Сяргей Панізнік, Навум Гальпяровіч, кампазітары Уладзімір Буднік, Алег Чыркун.

На сустрэчы прагучалі цёплыя словы на адрас Уладзіміра Максімавіча, яго вершы і пераклады, песні на яго словы. У зале панавала цёплая сяброўская атмасфера.

**Н. К.**



# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» НАГАДВАЕ:

## ІДЗЕ ПАДПІСКА НА 2-ое ПАЎГОДДЗЕ 2003 ГОДА!




## «ПОЛЫМЯ»

Валянціна Коўтун у другой кнізе рамана "Пакліканыя" працягвае ідэйна-тэматычную задуму і сюжэтную лінію ў асэнсаванасці сакральных таямніц вобраза Еўфрасінні Полацкай. Падзейнае палатно гэтага гісторыка-біяграфічнага твора — і вірлівае кола княскіх міжусобіц крывіцкай дзяржавы XII стагоддзя і папомніцкі шлях праз спякотную іўдзейскую пустыню ў Ерусалім, што ўвогуле сімвалізуе шлях чалавека да Боскага. У цэнтры падзей — слынная Беларуска і тыя, з кім сутыкаў не незвычайны лёс. Сюжэт адметны сваёй філасофскай каштоўнасцю і дастаткова гнуткі і займальны. Зінаіда Дудзюк выносіць на суд чытачоў міфалагічную аповесць: "Кола Сварога". Прачытаўшы аповесць міжвольна ўзрушыцца душа, ад усведамлення, што і пяць тысячаў гадоў таму чалавек верыў у неўміручасць усяго жывога.

Ягор Конеў вяртае нас у часы паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Гістарычная аповесць "Срэбны арол" па-мастацку цікавая, напоўнена філасофскім адчуваннем падзей і жыццёвай праўды.

А таксама на старонках часопіса будуць прадстаўлены новыя творы Уладзіміра Міхно, Івана Канановіча, Адама Глобуса, Віктара Праўдзіна, Анатоля Бароўскага і іншых.

Асаблівую цікавасць выклікаюць дзённікавыя запісы апошніх гадоў жыцця славутага пісьменніка Вячаслава Адамчыка. Падрыхтаваны да друку новыя вершы Віктара Гардзея, Васіля Макарэвіча, Соф'і Шах, Уладзіміра Паўлава, Віктара Шніпа, Уладзіміра Мароза, Васіля Жуковіча, Міколы Шабовіча, пераклады Лесі Украінкі і іншых. Зразумела, што пералічыць усіх аўтараў немагчыма, ды й не трэба, бо для чытача мы падрыхтавалі прыемныя сюрпрызы. Моладзь цягнецца ў "свет" праз рубрыку "Палымянскі дэбют", а смех і гумар, як вядома, доўжаць зямныя гады. Таму заўсёды апошнія старонкі часопіса "Полымя" падмацуюць ваша здароўе рубрыкай "Дзядоўнік на Парнасе".

Падпісвайцеся і чытайце "Полымя"!

## «МАЛАДОСЦЬ»

Як заўсёды, рэдакцыя "Маладосці" імкнецца напоўніць кожны нумар часопіса чытэльнымі літаратурнымі творамі, цікавымі крытычнымі і публіцыстычнымі матэрыяламі, даваць слова не толькі вядомым і прызнаным пісьменнікам, але і тым, хто робіць толькі першыя крокі ў літаратуры.

Хочацца спадзявацца, што выданне не расчаруе сваіх чытачоў. Так, у другім паўгоддзі 2003 года рэдакцыя мяркуе надрукаваць: рыцарскую аповесць Анатоля Бутэвіча "Каралева не здраджвала каралю"; фільмаслоў Людмілы Шчэрбы "Уладар рыбаў"; аповесць у навелах Міколы Адама "Хрысціна", фантастычныя аповесці Генадзя Аўласенкі і Андрэя Паўлухіна. У рэдакцыйных партфелях п'есы Юры Станкевіча "Шэры-Брэндзі, ангел мой", Пятра Васючэнкі "Пясочны гадзіннік", Андрэя Курэйчыка "Стары — вельмі стары сеньёр з агромністымі крыламі", фантасмагорыю Таццяны Мушынскай "Чалавек, які купляе час"; апавяданні Янкі Сіпакова, Уладзіміра Міхно, Анатоля Крэйдзіча, Алены Брава і інш. Пабачаць свет новыя вершы Юркі Голуба, Сяргея Панізніка, Мар'яна Дуксы, Марыі Лагодзіч, Іны Амельчанкі і інш.

У другім паўгоддзі рэдакцыя таксама плануе змясціць на старонках часопіса агляды маладой літаратуры Гомельшчыны, Віцебшчыны і іншых рэгіёнаў рэспублікі, творчыя партрэты пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, а таксама праблемныя артыкулы пра сучасную навуку, мастацтва, экалогію.

Заставайцеся з намі!

**Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на другое паўгоддзе 2003 года. На выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны.**

**Кошты засталіся тымі ж, што і былі ў першым паўгоддзі. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.**

### "Літаратура і мастацтва"

Індывідуальная (індэкс — 63856)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
**Ведамасная (індэкс — 63857)**
**на 1 месяц — 4000 руб.**
**на 3 месяцы — 12000 руб.**
**на 6 месяцаў —24000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 63880)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Полымя"

Індывідуальная (індэкс — 74985
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00141)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00727)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Маладосць"

Індывідуальная (індэкс — 74957)
**на 1 месяц — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00137)
**на 1 месяц — 3800 руб.**
**на 3 месяцы — 11400 руб.**
**на 6 месяцаў — 22800 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00731)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Крыніца"

Індывідуальная (індэкс — 74824)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 74940)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00730)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Нёман"

Індывідуальная (індэкс — 74968)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
**Ведамасная (індэкс — 00238)**
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00728)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Всемирная литература"

Індывідуальная (індэкс — 74863)
на 1 месяц — 2500 руб.
на 3 месяцы — 7500 руб.
на 6 месяцаў — 15000 руб.
Ведамасная (індэкс — 00135)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00729)
на 6 месяцаў — 16800 руб.



**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры 13 мая гасцінна вітаў усіх, хто прыйшоў туды, каб урачыста адзначыць 120-годдзе з дня нараджэння Янкі Маўра. Наведвальнікі музея пазнаёміліся з выставай, прымеркаванай да знамянальнай даты, на якой былі прадстаўлены асабістыя рэчы пісьменніка (акуляры, кульба, партфель, дакументы і ўзнагароды), рукапісы яго твораў для дзяцей, выданні на розных мовах свету, перакладзеныя ім на беларускую мову кнігі А. Чэхава і Р. Кіплінга.**

# ДЗЕДУ МАЎРУ — 120

У музеі было шмат дзяцей — вучняў мінскіх школ, аматараў твораў пісьменніка. Сабраліся блізкія сваякі Янкі Маўра (І. Фёдарава): дачка Наталля Фёдарава (Міцкевіч), зяць Міхась, унукі Марыя і Сяргей, праўнукі Васіліна і Яраслаў. Усе яны — Міцкевічы, бо дзве знакамітыя сям'і — Я. Коласа і Я. Маўра — даўно парадніліся. Прысутнічалі і выступалі на вечарыне таксама жонка старэйшага сына пісьменніка Л. Бедросава, літаратуразнаўца М. Яфімава. Нашчадкі Я. Маўра людзі дастойныя, сумленныя і працавітыя. Многія з іх (як, напрыклад, старшыня Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння Марыя Міцкевіч) расказалі цікавыя факты з жыцця і творчай біяграфіі пісьменніка.

Янка Маўр доўгі час працаваў настаўнікам у школе, выкладаючы геаграфію і гісторыю. Ён добра ведаў псіхалогію дзяцей, умеў развіваць у іх творчыя здольнасці, таленты. Дзіцячы пісьменнік лічыў, што кожнае дзіця па-свойму геніяльнае, трэба толькі знайсці ў ім нешта адметнае, выявіць і падтрымаць.

Па-чалавечы ён быў чулым і чуйным, ніколі не выглядаў засмучаным ці нахмураным. Меў вялікую бібліятэку, выхаваў у сваіх дзецях і ўнуках любоў да кніг, чытання. Наогул быў чалавекам філасофскага складу розуму. Ён даражыў словам, мовай, захапляўся імі як сапраўдны эстэт. У яго была надзвычай моцная сіла волі, якая дапамагала яму шмат працаваць, атрымліваючы ад гэтага велізарнае задавальненне. Творы яго вельмі любяць сучасныя дзеці. Я. Маўр узбагаціў беларускую літаратуру інтэлектуальна, эмацыянальна і эстэтычна.

На вечарыне творы пісьменніка прагучалі ў выкананні студэнтак 3-га курса факультэта дашкольнага выхавання Белдзяржуніверсітэта імя М. Танка Ю. Барань і С. Дударавай. У руках яшчэ адной юнай дзяўчыны, Ірыны, спявала скрыпка, прыгожа акампануючы слоўнай музыцы лепшых апавяданняў для дзяцей, напісаных Янкам Маўрам, — якія будуць чытаць яшчэ многія і многія пакаленні беларускіх школьнікаў.

С. Я.

*И тихонько шепчет шаловливо*
*Дорогой ночлежник: «С добрым*
*утром!»*
*...Закружила багряная стая*
*Золотою метелью в саду,*
*Полыхнула зарницами рая,*
*Назарет забрезжил поутру.*

Пасля такіх радкоў застаецца толькі дадаць:

**P.S.Ты прости мне,**
**Есенин Сережка, —**
**У тебя я тут слямзил немножко.**

А вось да такіх вершаў, я ўпэўнена, гэты ж аўтар дайшоў сам, без старонняй дапамогі:

*Мы на правду крутых времен,*
*Потный лоб вытирая устало,*
*Другу руку ложа на погон,*
*Говорили: «Не так бывало».*

Але цытат, думаю, хопіць. Пра ўражанне не пытаюся. Проста, у каторы ўжо раз, імкнуся зразумець: навошта гэтым неблагім увогуле людзям, добрым сямейнікам і працаўнікам, выстаўляць сябе ў такім незайздросным выглядзе? Навошта, насуперак агульнавядомаму "калі не поп, то ў рызу не убірайся", так упарта ўсцягваць на сябе гэтую самую рызу? Вядома, усе мы жывыя людзі, і ў кожнага ёсць свая слабасць. Напрыклад, я з дзяцінства люблю спяваць. Нават пра кар'еру спявачкі калісьці марыла. Добра, што побач аказаліся дасведчаныя, а галоўнае, праўдзівыя людзі, якія далі належную ацэнку маім вакальным здольнасцям. Тады я пакрыўдзілася, а потым з удзячнасцю ўспамінала іх, бо спявачка з мяне і сапраўды ніякая. Я і цяпер спяваю, калі... упэўнена, што мяне ніхто не чуе. Спяваю і ўяўляю, што было б, калі б некалі, ашчаджаючы маё самалюбства, мяне пачалі хваліць, як хваляць (на свае вушы чула) аўтараў памянёных мною кніжак. Калі ж я папракнула аднаго са "складальнікаў дыфірамбаў" у няшчырасці, той адказаў: "Навошта крыўдзіць добрага чалавека, тым больш, што здароўе ў яго слабое. Ды і ў асабістым жыцці не асабліва пашанцавала". Толькі ж, як пісаў знакаміты рускі пісьменнік Юрый Казакоў, "нікому няма справы да таго, хворы ты ці здаровы, за сваю ты справу ўзяўся ці не. Калі ты напісаў дрэнна, цябе не ўратуюць ні званні, ні былыя заслугі. Ты не пісьменнік". Так, кожны з нас мае сваю слабасць. Але адна справа, калі слабасць твая бяскрыўдная. Тут жа... Давайце разважаем. Выдаўшы кніжку на нашы грошы (так, менавіта нашы, бо грошы тыя выпрошваюцца пераважна ў дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў), наваспечаны пісьменнік (паэт) прыступае да рэалізацыі прадукту сваёй дзейнасці: разносіць "прадукт" па кніжных магазінах, бібліятэках, школах. Што прадае, а што дорыць сваім сябрам і знаёмым. Вопытныя чытачы, перагарнуўшы колькі старонак, усміхаюцца і кладуць кніжку ў якую-небудзь скрыню з непатрэбшчынай. Але ж чытачы бываюць і маладасведчаныя, асабліва сярод моладзі і школьнікаў. Для школьнікаў жа кніга пакуль што, так бы мовіць, апошняя інстанцыя. Прывяду два прыклады.

Тэма ўрока: "Сучасная паэзія". Трэба было вывучыць на памяць верш паэта-сучасніка. Да дошкі выходзіць вучаніца, называе невядомае мне прозвішча аўтара і пачынае чытаць, мякка кажучы, нескладуху. Хачу перапыніць, але перашкаджае думка: ці не сама яна напісала гэты верш? А прозвішча... ну, пасаромелася прызнацца і прыдумала тое прозвішча. Прашу вучаніцу падысці да мяне пасля ўрокаў.

"Таня, тое, што ты пішаш вершы, добра, але каб пісаць ДОБРЫЯ вершы, табе трэба крыху павучыцца. Прыходзь у наш гурток вершаскладання". — "Ды што вы?! — здзіўляецца мая вучаніца. — Ніякіх вершаў я не пішу!" — "Але дзе ты ўзяла той, што чытала на ўроку?" — "У кнізе". — "У якой кнізе?" — пытаюся я, хоць і так ужо разумею, у якой...

Заняткі гуртка. — "Вось вы нам гаварылі, што трэба вельмі строга сачыць за рытмам і пазбягаць дзеяслоўнай рыфмы. А вось у кнізе..." — і на стол мне кладзецца яшчэ адна з тых, "самапальных". — "Ды не кніга гэта!" — ужо злуюся я. — "Чаму не кніга?" — здзіўляецца юная паэтка.

Як мне было растлумачыць ёй, што такую "кнігу" можа сёння выдаць нават малапісьменны вучань. Былі б толькі ў яго грошы. Грошы — вось рухавік той машыны, што валам валіць у свет друкаваную прадукцыю, якая не вытрымлівае ніякай крытыкі, але, хочам мы таго ці не, уплывае на фарміраванне мастацкага густу і заадно прафануе некалі ганаровае званне пісьменніка.

Гадоў два таму на адной з літаратурных сустрэч выпала мне пагаварыць з прадстаўніком магілёўскай друкарні. Не хачу называць яго прозвішча. Сказаўшы нямала добрых слоў пра паліграфічныя якасці кніг, што ўбачылі свет у іхняй друкарні, асцярожна кранула тэму якасці зместу. Мой суразмоўца ўсміхнуўся: "Няўжо вы думаеце, што мы дылетанты? Вось нядаўна зрабілі вершаваны зборнік вашага земляка. Спрэс графаманская лухта. Але ж грошы нам заплацілі добрыя. Жыць жа неяк трэба. Вось і друкуем. Друкуем і смяёмся... праз слёзы".

Неўзабаве пасля гэтай размовы напісала невялічкі артыкул, які быў змешчаны ў "ЛіМе" пад назваю "Як зачыніць "адкрытую браму" бяздарнасці?", дзе прааналізавала адну з тых кніжак, якія "друкуюць і смяюцца праз слёзы". Рэакцыя з боку пакрыўджанага аўтара была маланкавай па хуткасці і сіле: абразы і пагрозы па тэлефоне не толькі мне, але і маім сямейнікам. На жаль, адна з пагроз здзейснілася. А літаральна праз некалькі месяцаў выйшла яшчэ адна кніжка з тым жа прозвішчам на вокладцы і з той жа, што ў папярэдняй, вартасцю змесціва...

Нейкі час я збіралася звярнуцца ў Саюз пісьменнікаў і ў дзяржаўныя органы з прапановаю забараніць выдаваць мастацкія творы ў недзяржаўных выдавецтвах, але спахапілася: хіба ж усё, што выходзіць у свет такім чынам, — графаманская лухта? Не. У наш неспрыяльны для творцы час, калі дзяржаўныя выдавецтвы не маюць дастаткова сродкаў і чакаць выхаду кнігі іншым разам даводзіцца гадамі, шукаць спонсараў і выдаваць кнігі мусяць і сталыя пісьменнікі, і маладыя таленавітыя аўтары. Успомніліся першыя кніжкі Міколы Ждановіча, Уладзіміра Гаўрыловіча. Праўда, такіх аўтараў няшмат, але ж яны ёсць. Дык як жа аддзяліць "зёрна от плевел"? Як вярнуць кнізе былы аўтарытэт, а пісьменніцкаму званню — належную павагу?

**Валянціна КАДЗЕТАВА,**
**настаўніца,**
**член Саюза беларускіх пісьменнікаў**






## літаратурны квартал

**21 мая сябры "Літаратурнага квартала" сустрэліся, каб паслухаць і пачытаць свае новыя творы.**

**Радасна, што творчы імпэт кварталаўцаў не згас нягледзячы нават на пару адпачынкаў і вакацыяў. У чытаннях і стыхійным абмеркаванні пачутага бралі ўдзел Святлана Кананові, Усевалад Гарачка, Тацціяна Барысюк, Наталля Капа, Наталля Кучмель, Аксана Спрынчан, Яўген Раміняца, Рагнед Малахоўскі, Ігар Клепікаў, Зміцер Арцюх, Яўген Мальва, Аксана Бязлепкіна, кіраўнік суполкі Людміла Рублеўская і галоўны рэдактар штотыднёвіка "ЛіМ" Віктар Шніп. На адным з наступных пасяджэнняў будзе абмяркоўвацца творчасць Тацціяны Будовіч.**

**Замест сустрэчы 29 мая кварталаўцы вырашылі 31 мая ў суботу зладзіць чытанне вершаў на знакамітай Лысай гары. Як гэта ў іх атрымаецца — можна будзе пачытаць у наступнай справаздачы.**

**Н. К.**

# ДА ЮБІЛЕЮ ЯНКІ МАЎРА

У сярэдняй школе № 126 г. Мінска, якая размяшчаецца на вуліцы Янкі Маўра, адбылося свята, прысвечанае 120-годдзю класіка беларускай дзіцячай літаратуры Янкі Маўра. У госці да вучняў і настаўнікаў гэтай навучальнай установы завіталі пісьменнікі Маргарыта Яфімава, Мікола Чарняўскі і Міхась Пазнякоў. Дарэчы, у школе дзейнічае невялічкі літаратурна-мемарыяльны музей славутага пісьменніка. У экспазіцыі музея прадстаўлены асабістыя рэчы, кнігі, дакументы і фатаграфіі Янкі Маўра. Да юбілею любімага пісьменніка вучні рыхтаваліся загадзя. На працягу месяца праводзілі творчыя мерапрыемствы, конкурсы, рыхтавалі насценныя газеты, выстаўкі малюнкаў паводле твораў Я. Маўра. Лепшыя з іх выступілі са сваімі літаратурна-музычнымі нумарамі і ў дзень свята. А госці падзяліліся ўспамінамі пра знакамітага пісьменніка, расказалі аб яго ўплыве на развіццё беларускай дзіцячай літаратуры, аб літаратурным жыцці сягоння, прачыталі свае творы і падарылі школьнай бібліятэцы ўласныя кнігі з аўтографамі.

**П. КУЗЬМІЧОЎ**

# СУСТРЭЎ ВАЙНУ НА СТАНЦЫІ ПУХАВІЧЫ

Яшчэ адно імя варта занесці на літаратурна-краязнаўчую карту Пухаўшчыны. Васіль Дзмітрыевіч Аглоблін — вязень Бухенвальда. Літаратар. Доўгія гады кіраваў літаратурным аб'яднаннем у родным горадзе Капейску. Гэта — у Расіі. Васіль Аглоблін — сын намесніка камандзіра 25-й Чапаеўскай дывізіі, поўнага Георгіеўскага кавалера.

Вайну будучы літаратар пачаў у раёне чыгуначнай станцыі Пухавічы. У складзе 8-й паветрана-дэсантнай дывізіі ці брыгады. Пасля амаль года баёў патрапіў у палон — 5 мая 1942 года. Каля Вязьмы. Дахаты адправілі "пахаронку". А на самай справе Васіль Аглоблін знаходзіўся ў харольскім канцлагеры. Затым быў пераведзены ў драгобычскую турму. У Германіі зняволенага трымалі ў лагеры ў Мепені. Двойчы спрабаваў уцячы. 270 дзён утрымліваўся ў Бухенвальдзе. Вызвалілі амерыканцы.

У 1946 годзе вярнуўся ў Чэлябінск. Працаваў у газеце "Копейский рабочий". У хуткім часе звольнілі як няблагадзейнага. Толькі ў 1975 годзе ізноў пачаў актыўна займацца журналістыкай. Большасць твораў засталіся ў рукапісах. У тым ліку — і вершаваны зборнік "Я по земле ходил легко". Раман "Подземный гул" таксама чакае свайго выдаўца. Хаця яшчэ пры жыцці (памёр Васіль Аглоблін у 1995 годзе) з пісьменнікам вяліся перамовы пра выданне твора ў Германіі, Англіі, ЗША.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# НА АРЭХАВЫМ КАНІ — У МАЛЕНСТВА

"На арэхавым кані" — так назваў сваю новую кнігу, адрасаваную дзецям дашкольнага ўзросту, якая толькі што пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура", Анатоль Зэкаў. Гэтым разам — паэтычную. Трэба адразу адзначыць: і яго вершы, як і апавяданні, з якімі маленькія чытачы, а то і слухачы, калі з творамі іх пазнаёмяць старэйшыя — аб'ядноўвае пачуццё дабрыні да тых, пра каго пісьменнік расказвае, а яшчэ разуменне, што свет дзяцей — гэткі ж аб'ёмны, як і свет дарослых, толькі трэба ўмець уважліва паставіцца да яго, і тады лёгка пераканаешся, як там шмат адбываецца таго, што вызначаецца сваёй прывабнасцю і непаўторнасцю. А яшчэ, а гэта таксама вельмі важна, А. Зэкаў, перш чым здзівіць сваіх чытачоў, умее здзіўляцца і сам, бо не згубіў у сабе пачуцця захаплення перад акаляючым светам, нерушавасці пачуццяў. Таму, калі чытаеш лепшыя вершы кнігі, забываеш, што яны напісаны сталым аўтарам. Уражанне такое, што гэта ўсё прамаўляецца самімі дзецьмі. Як, для прыкладу, у гэтым творы, шматзначна названым "Вучоныя вароны". Дзеці, асабліва вясковыя, добра ведаюць гэтых птушак, як ведаюць і тое, што вароны ўсё ж, у параўнанні з іншым птаствам, асаблівай кемнасцю не вызначаюцца, а тут раптам вырашылі ў навуку падацца. Безумоўна, у іх адразу ж з'явіцца жаданне, што ж атрымалася з падобнага намеру, а адбылося тое, што і мусіла адбыцца:

*На галінах*
*На зялёных*
*У дрымучым*
*У бары*
*Парасселіся вароны*
*І чыталі буквары.*

*Кар-кара,*
*кар-карані,*
*кар-карась,*
*кар-каралі.*

*Дзе з усхліпам,*
*Дзе са стогнам*
*Прачыталі ўвесь буквар.*
*А запомнілі вароны*
*З той навукі*
*Толькі "кар".*

Верш, безумоўна, маленькім лёгка запомніцца, бо напісаны так, што нічога ў ім лішняга. Адсутнічаюць ускладнёныя параўнанні, няма рэбусавасці ў вобразах. Адным словам, напісаны ў лепшых традыцыях дзіцячай літаратуры. Як пісалі нашы класікі яе: Эдзі Агняцвет, Станіслаў Шушкевіч, Артур Вольскі, у рускай жа — гэта найперш Агнія Барто. Калі ж гаварыць пра майстэрства А. Зэкава з пункту гледжання пабудовы твора, дык, несумненна, яму ўдалося вельмі тонка спасцігнуць гэты працэс "навучання" варон, калі птушкі, хочуць таго ці не, а паўтараюць гукі, ім з маленства добра знаёмыя, а гэтае "кар" і надае твору своеасаблівую афарбоўку.

Падобных прыкладаў, калі аўтарам ствараюцца каларытныя, запамінальныя паэтычныя малюнкі, можна прывесці шмат. І адбываецца гэта падчас пранікнення А. Зэкава ў свет, добра вядомы дзецям, ды і героі твораў, як правіла, традыцыйныя. Аднак А. Зэкаў не толькі апавядае. І не толькі падае пры гэтым пэўную інфармацыю пазнавальнага характару. Ён яшчэ, што таксама вельмі важна, абуджае дапытлівасць у хлопчыкаў і дзяўчынак, дапамагае ім задумвацца над тым, што адбываецца поруч. Пры гэтым гатовых адказаў не дае, а дазваляе самім паразважаць над тым, што магло быць у сапраўднасці. У гэтым сэнсе цікавым атрымаўся верш "Трамвайныя мары Тамары":

*Сёння ў цырк Тамара*
*На трамваі едзе,*
*Дзе ўбачыць марыць*
*Цыркача-мядзведзя,*
*Што іграе на дудзе*
*І пра штось сваё гудзе...*

*А трамвай,*
*Пра што ён марыць,*
*Як у цырк вязе Тамару?*

А яшчэ адзін — "Кенгура ці кенгуру" — увогуле прымушае задумацца, а якое слова правільна ўжываць у дадзеным выпадку. Пры гэтым, як і заўсёды, Зэкаў піша дасціпна. І, канечне ж, на ўсё глядзіць вачыма тых, каму і адрасуе сваю кнігу:

*Ці залезе к е н г у р у*
*На высокую гару?*

*Ды адно не разбяру:*
*К е н г у р а*
*Ці к е н г у р у?*
*Бо калі ўсё ж*
*Ёсць гара —*
*Значыць,*
*Ёсць і к е н г у р а?*

Праўда, буду шчырым, не ўсе творы аднолькава ўдаліся аўтару, бо ў асобных ён дазваляе сабе празмерную вольнасць у рыфмаванні, а верш "Непаслухмяныя санкі" адразу ж асацыіруецца з аднайменнай кніжкай для дзяцей Міколы Мятліцкага. Але ўсё гэта — прыватнасці. У цэлым дзеці атрымалі добры падарунак ад аўтара, ды і ад усяго выдавецтва "Мастацкая літаратура". А даросламу, прачытаўшы гэты зборнік вершаў, ёсць рэдкая магчымасць на арэхавым кані перанесціся ў сваё далёкае маленства.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

ПАЭЗІЯ

Мікола АРОЧКА



***Закончыў драматычную паэму "Каранацыя Мендаўга" (схіляюся да меркавання: імя ўзыходзіць да славянскага летапіснага — Мендаг, Мендзя, параўн.: Мендзялееў). Прапаную некалькі выняткаў з драматычных маналогаў Мендаўга, з яго ярасных спрэчак са сваімі зацята-недальнабачнымі супрацоўнікамі (потым забойцамі — Даўмантам, Транятам), якія не разгледзелі расклад і расстаноўку новых сіл у свеце, змену цэнтраў задзіночання і збірання зямель Вялікай Літвы і Крывіі (з пераносам першадзяржаўна-ўтваральнага ядра з Полацка ў Навагрудак). Іх, працоўнікаў такога светаразумення, займала найбольш свая бяда нарастання экспансіі крыжакоў на балцкія землі, плямёны. Таму так упарта яны дамагаліся, каб новаабвешчаны кароль сам адвёз сваю карону тым, з чыіх рук яе атрымаў.***

***Гэты момант важна было акцэнтаваць у паэме-трагедыі, каб стала зразумела, што забойства Мендаўга — акцыя палітычная! А не проста нейкія там "жарсці літвінскіх князёў", любоўная інтрыга між скрыўджаным "сокалам-рарэгам" нальшанскім князем Даўмантам і старым "воўкам" (не інакш!) Мендаўгам.***

# КАРАНАЦЫЯ МЕНДАЎГА

## ЗВЯРТАННЕ ДА ПОСТАЦІ

*...Маё звяртанне ўскаланула меч —*
*Аж пошчак разануў нутро няшчадна.*
*Чаму рука ўздымала безаглядна*
*Яго — не толькі ў пекле грозных сеч?*

*Для ўгрунтавання —*
*з верхнай самаўладнасці?*
*Адпрэчвалася кволасці сляза.*
*Кірунак вызначала моц ляза:*
*Прабіў тварэння час*
*Першадзяржаўнасці!*

*Не з роду вы Неронаў, Калігул.*
*У мэце злое з дабрынёй звілося,*
*Бо на шчыце адкуль тады ўзялося*
*Калоссе ў бліскавіцах стрэл —*
*адкуль?*
*Стыхія ярай моцы: хто дужэй?*
*Ці гэта вас вяло ў вялікакняства?*
*Што важыць болей:*
*прага уладарства*
*Ці гаспадарства —*
*з ношай найцяжэй?*

*У круталомны час нашэсцяў, сцюж —*
*Як утрымацца замкам,*
*хатам курным?*
*Куды загледзеўся ваш позірк хмурны —*
*У лёс зямель раздробленых і душ?*

*З празорыстым прадбачаннем дарог*
*Нам прычасціцца трэба*
*вашым духам!*
*З каранавання вашага падслухаць*
*Той сэнс, што ўзычыў Бацькаўшчыне*
*Бог!*

## Мендаўг

*...Я ж знаю гэта... Ды ў мяне на мэце —*
*Не вынішчэнне вашае, паверце!*
*Ні вас, ні земляў вашых заграбанне,*
*Нібы на знак адзінства і яднання!..*
*Карона —*
*вось дзе выснены мной знак*
*Змагання за сябе —*
*насупраць бедства,*
*Што напірае з двух бакоў... Аднак*
*Хрыбет захопаў*
*зломіць Каралеўства!*
*Пажараў наглыталіся мы ўсмак.*
*Лёс нам адно вяшчуе: выжыць,*
*выжыць!*
*А жыць — калі?!*
*Насупраць пашчаў хіжых...*
*Вачамі ўзмерце шлях — у два бакі:*
*Ардынцы... Крыжакі...*
*А там — за імі*
*Гадуюцца з ашчэрам новыя клыкі!*
*А нам рукамі, жыламі сваімі,*
*І розумам, і хітрасцю*
*Са злом*
*Схапіцца трэба ў сечы —*
*І на злом*
*Пусціць усе крыжацкія намеры*
*Дзяльбы і перадзелу душ, зямель.*
*Ды Каралеўская Літва*
*Прыпыніць гэту дзель!*
*У Крыўскі Дом*
*яна замкне ім дзверы!*
*Вы ўцямілі цяпер, з якіх глыбіняў*
*Ідзе каронны бляск маіх пярлінаў?*

•

*...Ды іншы жаль засеў у маім зроку:*
*Як хочацца адседзецца вам збоку —*
*Ад новых накірункаў і шляхоў,*
*У заглушы раздробленых куткоў,*
*Сярод князькоў, як завадзь,*
*неглыбокіх,*
*Сярод Багоў паганскіх і бажкоў...*
*Ды помніце:*
*Без нашае кароны,*
*Без Каралеўскай Крывіі, Літвы*
*Ніколі не ўтрымаецеся вы!*
*Застанецеся жменяю плямёнаў,*
*Як вотруб'е з зярнят*
*са збітых жорнаў!..*
*...Я, можа, варты вашага праклёну...*

*Але карону?*
*Што вы надумалі — карону?!*
*Сарваць акрутна?.. Ды яна жыве*
*Ужо сама сабою...Незалежна!*
*Непрыналежна ўладам іншым...*
*Грэшна*
*Аддаць яе на здзек і патаптанне...*
*Яна вам не даруе гэта насміханне!*
*Карона ўмее помсціцца, караць!*
*А, калі трэба, лёсу памагчы*
*На ногі ўстаць!*
*Вы гэта ўспомніце, як гора прыпячэ.*
*Я не аддам яе, пакуль жывы яшчэ!..*
*Хай валасы мае сівыя рве*
*Спрычынены мной смутак...*
*ды карона*
*Сваёй зямною моцай і паднебнай*
*Не так старому, можа,*
*мне патрэбна,*
*Як — тут —*
*першадзяржаўнай галаве —*
*Вялікай нашай Крывіі, Літве!*
*...Яны ўсе там — на жэглішчы...*
*Пяруне,*
*Ты прагу не спатоліў тут яшчэ*
*Свяшчэнным спапяленнем?*
*Як пячэ*
*І слёзна разрывае ўсю душу мне*
*Саладкавата-горкі дым ахвяр!*
*Дым рук і сэрцаў, маладых,*
*адчайных,*
*Дым вуснаў і вачэй пяшчотнадайных,*
*Дым пацалункаў развітальных,*
*Мар...*
*Дым, нібы пасмы пасівелых матак,*
*Паміж камлёў, кустоў плыве, цячэ...*
*Чапляецца за голле колькі стратаў!*
*Няўжо, Пяруне, прагнеш іх яшчэ?*
*Даруй, што ў забыцці*
*я тут хрышчуся —*
*Перад табой, Пяруне,*
*І табой, Ісусе...*
*Я не пазбег і сам крыві пралітай,*
*Крыві нявіннай,*
*З рук маіх не змытай...*
*У вас, Багі, прашу я даравання...*
*Ды я ці раз, смуткуючы, прашу?*
*Іду на сечу — ў сэрцы жаль душу...*
*Ды сёння мне за ўсе кровапусканні*
*Жахлівы грэх*
*апанаваў душу...*
*З Ісусам сёння —*
*веры маёй повязь.*
*Ды і Пяруну ўзношу*
*сваю споведзь!*
*Адзін другога вартыя Багі!*
*Калі б вы не былі*
*ўзаемаварты,*
*Ці ў гэтай сечы,*
*лютай і упартай,*
*Людскія жыцці бездыханна*
*Так зляглі?*
*Тут — воінства паганскае,*
*Там — воінства Хрыстова...*
*Вунь на шчытах,*
*плашчах —*
*Крыжы, крыжы...*
*Крыж зганьбавалі*
*вы ў вызнанні новым.*
*Ісусе, як ачысціць*
*тваім словам*
*Высокай веры знак —*
*Нас навучы, скажы?*
*...Пяруне,*
*Ногі апаліў мне жар-пясок,*
*І ў попел галава уткнулася знямела.*
*Ступаў я часта, можа, не ў той бок,*
*І ў немачы дрыготка ныла цела.*
*І дух мой завісаў між двух агнёў:*
*Тваім, Пяруне, і тваім, мой Хрысце.*
*І я ў маленні не знаходзіў слоў,*
*І я ў шуканні не знаходзіў выйсця.*
*Дзе выйсце?*
*Я кладу да тваіх ног,*
*Пяруне, ў перлінах сваю карону.*
*Не ведаю і сам я, хто мой Бог?*
*І да каго схіляюся ў паклоне?*
*Кладу надзею на каронную Літву,*
*На Крывіі святую самабытнасць.*
*Калі не тым я жыў, не тым жыву,*
*Ты растапчы, як здань,*
*маю нязбытнасць.*
*(устае, прыціскае карону*
*да грудзей)*
*...Не зразумелі нас з табой, карона...*
*Сляпым — не да вялікіх нашых мэт!*
*З табой мы ратаваліся б ад бед,*
*Тварылі б разам трохі лепшы свет,*
*Ды трапілі з табой пад біч закона!*
*...Магістру занясці —*
*шпурнуць да ног?*
*Лепш раскрыжуйце*
*тут мяне самога.*
*Карона — мая вера!.. Нібы Бог!*
*Руку не падымайце вы на Бога!*

## Паслясказ

*Знайшла бяда ў Лаўрышаве цябе:*
*У келлі сваёй, Войшалк, не схавайся!*
*Пасад вялікакняскі ў барацьбе*
*Гартуй і са сваёй зямлёй —*
*трывалься!*

*Паклікаў бунт жмудзінаў,*
*дык суймі,*
*Развеж іх супраціў самазнішчальны.*
*Каронны бунт разумнасцю прадзьмі.*
*Хоць выступ іх —*
*дзікунны кліч адчайны!*

*Страх Даўманта*
*Пагнаў на службу ў Пскоў.*
*Страх помсты меча*
*пёк, як джала, грудзі.*
*Кахаў?.. Чаму ж ты зрокся галасоў*
*Сваіх святых лясоў?*
*І Мірты?..І самое Жмудзі?!*

*Ды мацеры ад тога — ці лягчэй?*
*Асірацелай Мірце спачувае келля.*
*Хусціна тая ж чорная з плячэй*
*На ёй трымціць,*
*як з жэглішча пякелле...*

*Трагедыя каронная яшчэ*
*Паўторыцца ці раз*
*на гэтых землях!!*
*Кагосьці дацінае і пячэ*
*Наш страх і кліч:*
*не поўзаць на каленях!*

*Ды прага наша перальецца ў кроў —*
*Гарачую, як Вітаўтава дзейства.*
*Ды пераймуць і будуць секчы зноў*
*Карону нашу*
*сквапнасць і зладзейства!*

*Кароннай непадлегласці людзей*
*Свабодны свет не выцяў і не зрушыў.*
*Хоць хціва падступае да дзяцей*
*Калечанне іх мовы,*
*веры, душаў.*
*Карона, не сумуй на адвітанне:*
*Яшчэ ты колькі постацяў абудзіш!*
*Каранаванне —*
*ў пары з крыжаваннем...*
*Апошнім — не кажу.*
*Апошняга не будзе!*

**2003 г., студзень-красавік,**
**в. Вецявічы**



# ЗАМАХ НА КАХАННЕ

**Віктар ПАТАПЕНКА**



Ціхай чэрвеньскай ноччу дзяжурны міжрайаддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй оперупаўнаважаны Васіль Сініцын — высокі, шыракаплечы бландзін —па званку з мясцовай міліцыі ехаў на месца злачынства, якое адбылося некалькі хвілін таму каля начнога бара ў райцэнтры.

—Забіты Уладзімір Лагуноўскі, прадпрымальнік з суседняга раёна —паведаміў яму следчы Аляксей Новікаў, як толькі Сініцын прыбыў на месца здарэння. —Вось яго пашпарт і дакументы на машыну. Яго сяброўку, Валянціну Лапцікаву, куля не зачапіла. Зараз дакторка з "Хуткай" выводзіць яе з шоку. Відавочна, што работа не мясцовых, почырк канкурэнтаў ці бандыцкія разборкі. Гэта ўжо па вашай лініі.

Васіль паглядзеў на труп, які ляжаў на заднім сядзенні машыны, і ўважліва прыглядзеўся да прастрэленых дзверцаў "БМВ".

—Стралялі з "ТТ". Без сумнення, —заўважыў эксперт мясцовай міліцыі Генадзь Галавач, які ўключыў відэакамеру і пачаў здымаць дзіркі ад пісталетных выстралаў.

Васіль падышоў да Новікава, запытаўся:

—Акрамя Лапцікавай, яшчэ сведкі ёсць?

—Бармен выходзіў у двор. Сустрэчная машына высвеціла матацыкл. Мы ўвялі план "Перахоп", але, адчуваю, карысці з яго не будзе. На матацыкле можна праехаць усю Беларусь па лясных дарожках.

—Пэўна так, —згадзіўся Сініцын. —Можа, сведка ўжо ачуняла?

—Пайшлі. Паглядзім.

Яны адчынілі дзверы "Хуткай". Каля дакторкі, якая папрасіла іх не трывожыць, сядзела маладая, сімпатычная жанчына. Выціраючы бялюткай насоўкай прыпухлыя ад слёз вочы, яна сказала:

—Я хачу, каб вы зараз жа затрымалі майго мужа. Мне здаецца, што гэта ён быў тут.

—Здаецца ці насамрэч быў, —удакладніў Сініцын.

—Нутром адчуваю, што ён, —жанчына разгублена паглядала на прысутных. —Учора вечарам я сказала яму, што буду браць развод.

—І што. Ён неяк гразіўся?.. —спытаў Новікаў.

—Аблаяў мяне. Я выйшла з дому...

—З Лагуноўскім вы знаёмы даўно? —спытаў Сініцын.

—Другі год пайшоў. Спачатку мы таіліся, не хацелі, каб нас хто бачыў разам. Потым, калі адчулі, што жыць адно без аднаго не зможам, вырашылі, што скажам пра гэта сваім і, нікога не баючыся, будзем ладзіць сваё жыццё, як хочам. Я сказала мужу, а Лагуноўскі жонцы... І вось што атрымалася, —яна зноў заплакала. Калі ж праз нейкі час супакоілася, працягвала: —У гэты начны бар з Валодзем прыязджалі некалькі разоў. Тут было, як нам здавалася, бяспечна. Тут мы маглі спакойна бавіць час. А калі ўжо так, што мы вельмі і вельмі любілі адно аднаго і каб не яго пацалунак у машыне, напэўна, я зараз таксама ляжала б побач з ім...

Раптам адчыніліся дзверы "Хуткай", і эксперт, звяртаючыся да Новікава, сказаў:

—Па рацыі чутна, што "даішнікі" знайшлі матацыкл.

Сініцын зірнуў на следчага і не чакаючы яго дазволу, каб забраць з сабою эксперта, скамандаваў: "Едзем!"

Праз пяць хвілін яны былі на чыгуначным паўстанку "Прыбярэжнае". Непадалёку ад насыпу, каля пешаходнай дарожкі, у святле ліхтароў чыгуначнага пераезду стаялі двое аўтаінспектараў.

—Матацыкл і матацыкліст у траве... —інспектар паказаў рукой наперад, —вунь там, а расцяжка —перад вамі.

Сініцын памацаў тонкі стальны дрот, нацягнуты паміж дарожным знакам і электрычным слупом, падышоў да трупа, які ніцма ляжаў у траве. У загінуўшага ніякіх дакументаў не было, толькі ў кішэні вятроўкі знайшоў звязку ключоў ды запісную кніжку.

2

Гаўрылёвы ў вёсцы Панькаўшчына —цэнтральнай сядзібе калгаса "Прагрэс" — лічыліся інтэлігентнай сям'ёй. Гаспадар, Іван Васільевіч, працаваў галоўным інжынерам калгаса, маці, Любоў Мікалаеўна, і іх старэйшая дачка Вера, настаўніцамі ў школе, а меншая, Надзейка — вучаніца-дзесяцікласніца.

У нядзелю, пасля таго, як гаспадар пайшоў на працу, Любоў Мікалаеўна, як заўсёды, згатавала лёгкі сняданак і запрасіла дачок да стала.

Дзяўчаты ўставалі нехаця. Надзейка, вылітая мамка, як па знешнасці, так і па натуры, з пасцелі паднялася хутка і ўжо рэзала белы хлеб на стале.

Старэйшая, Вера, больш любіла сябе. Каб упрасіць яе нешта зрабіць, даводзілася гаварыць некалькі разоў. І толькі калі яна бачыла, што гэтая работа можа прынесці ёй нейкую выгоду, згаджалася дапамагчы або зрабіць самой.

—Што ж будзе, калі ты выйдзеш замуж? —часта ў такіх выпадках, калі дачка нічога не хацела рабіць, пыталася маці. —Няўжо думаеш, што і тады нехта ўсё будзе рабіць за цябе.

—На жураўля, мама, як ты бачыш, я не спадзяюся, —жартам адказвала дачка. Бо ў мяне Сініцын у руках.

—Васіль проста яшчэ не разабраўся, якая ты цаца, —працягвала маці.

—Мама! —узгаралася тады чырванню Вера. —Ты, напэўна, хочаш, каб у мяне не склалася жыццё!

Любоў Мікалаеўна паклала на плячо дачцэ руку, лагодна ўсміхнулася:

—Ты, можа, іншы раз на мяне крыўдуеш, калі павучаю. Але якая ж маці жадае свайму дзіцяці дрэннага?

—Не ведаю пра іншых, а вось што тычыцца мяне, дык ты ніколі не даеш мне спуску: усё ўшчуваеш ды ўшчуваеш. Васіль мяне і такую любіць. І называе разумненькай цацай. Ласкава, між іншым.

—Гэта зараз, пакуль ты яшчэ не яго жонка, —казала маці.

—Цікава, што ты скажаш пра мяне яму, калі ў наступную нядзелю, прыйдзе прасіць, як пішуць у старых раманах, маёй рукі? Адгаворыш, будзеш казаць, якая я кепская?

— Як? —здзівілася Любоў Мікалаеўна. —Ён табе пра гэта гаварыў?

—Вядома, —радасна заўсміхалася Вера.

На кухні пачулася, як аб падлогу бразнулася каструля і адразу ж моцна ляснулі ўваходныя дзверы.

—Надзя! —паклікала меншую Любоў Мікалаеўна, —што там падае?

Тая не адказала. Тады, не дачакаўшыся адказу, маці зноў узялася за старэйшую:

—Не разумею цябе. Тут такое намячаецца, а ты маўчыш. Каб я не зачапіла цябе, дык, напэўна, і не сказала б. Мне ж падрыхтавацца трэба, маці ж.

—Не-а, не сказала б, —паківала тая галавою. —А навошта? Гэта мне вырашаць: пайду за яго ці не.

—Дык ты яшчэ і сумняваешся?

—Крыху. Часам думаю, што не такі мне патрэбен муж. Але ж, пакуль што Васіль для мяне, як тая палачка-выручалачка. Выйду замуж —буду жыць у райцэнтры, а там... з вобласці і сталіцу можна ўбачыць. Не мадзець жа ў вёсцы.

Любоў Мікалаеўна глядзела на старэйшую дачку, быццам бачыла яе ўпершыню. Яна не ведала: радавацца ці спачуваць ёй. Моўчкі, быццам адняла мову, глядзела на яе.

—Мама, —сказала Вера, —ты такая разгубленая, быццам не мне, а табе трэба выходзіць замуж. Ды ўсё нармальна. Васіль кахае мяне, а я да яго прывыкну... Ну няма пакуль майго, адзінага... Не адмаўляцца ж ад таго, што само ідзе ў рукі. Неразумна ж будзе, сама падумай...

Любоў Мікалаеўна нічога не адказала. Пайшла ў кухню, паклікала Надзю. Нікога. Прыслухалася. Быццам на гарышчы пачуўся плач. Яна выйшла на двор і па лесвіцы ўзбарлася наверх.

—Што здарылася, сонейка маё? —прыгарнула маці да сябе меншую дачку. —Ты ўдарылася? Табе баліць? Дзе?

—Вось тут, —Надзя паклала руку на сэрца. —Вельмі баліць. Хацела не гаварыць, але не магу.

—Дык давай зараз жа ў бальніцу. Хуценька... Давай дапамагу ўстаць.

—Не трэба, мамка. Дактары гэта не лечаць.

—Як не лечаць? Адкуль ты ведаеш? —спалохана пыталася маці.

—Ведаю, не маленькая.

—Надзейка, —Любоў Мікалаеўна мацней абняла дачку, —што такое ты гаворыш?

—Мамачка, я закахалася... —Надзя яшчэ больш разрумзалася.

—Цьфу ты! —з палёгкай уздыхнула Любоў Мікалаеўна, —во, дурніца... Так напалохала была. Гэтак да інфаркту можна давесці. Спачатку старэйшая мне выдала, дык выдала, зараз —малодшая. Вы што, змовіліся?

Надзя адмоўна пахітала галавой.

— Тады не бяда, а радасць. Закахацца ў семнаццацаць гадоў —гэта шчасце. Яно самае светлае, самае прыгожае... Трэба радавацца, а не плакаць, дурнічка, —маці пацалавала дачку. —Хто ж ён, калі не сакрэт?

—Сакрэт, мама. Баюся, казаць.

—Не палохай, —сказала Любоў Мікалаеўна. —Можа не давяраеш маці?

—Давяраю і прашу дапамагчы мне. Я кахаю Васіля.

—Якога Васіля?

—Сініцына!

3

На чацвёртыя суткі расследавання двух злачынстваў Васіль Сініцын разам са следчым абласнога ўпраўлення Іванам Каршаковым, каржакаватым саракагадовым мужчынам, ехаў арыштоўваць Соф'ю Лагуноўскую. Мінуліся цяжкія дні і ночы пошуку злачынцаў. У следчага было заключэнне экспертызы, што забілі матацыкліста (а ім аказаўся муж Валянціны Лапцікавай) не на месцы падзення з матацыкла, а раней па часе і не там. Састаў глебы і мікраарганізмаў на яго вопратцы і целе, дзе ўтварыліся раны і сінякі, не адпавядалі глебе таго месца, дзе ён ляжаў.

Экспертыза дэталёва агледзела і крадзены матацыкл. На ім не было знойдзена ніводнага рэчыва, якое б належала забітаму. Стала зразумела, што нехта забіў мужа Лапцікавай і падкінуў яго цела да матацыкла, каб падмануць следства.

Нітачку для далейшага расследавання эксперты знайшлі на матацыкле, пад ручкай задняга сядзення. Там засталася парфумная фарба з пазногцяў, што адпавядала фарбе, якой карысталася жонка забітага Лагуноўскага, Соф'я. Узнаўляючы амаль што кожны яе крок у апошнія дні перад забойствам мужа, Сініцын устанавіў наступнае: Соф'я мае прамое дачыненне да злачынстваў. У апошні час яна прадала некалькі каштоўных вырабаў, абмяняла буйную суму грошай на долары, у сяброваk па працы пазычыла грошы.

Напярэдадні яе бачылі з незнаёмым, які падвозіў на матацыкле. Хто ён —пакуль невядома. Нічым не выдала яна сябе і на пахаванні мужа. Гаравала так, што ёй выказвалі свае спачуванні родныя і калегі па працы.

Апошняй кропкай раскрыцця забойства з'явілася дэталёвае праслухоўванне яе тэлефонных міжгародных перамоў. У сталічнага бізнесмена, з якім у яе, як выявілі, былі любошчы, знайшлі на перакідным календары нумар тэлефона картынгавага клуба, а ў ім —заказнога забойцу Лагуноўскага і мужа Валянціны Лапцікавай.

Арыштоўвалі Соф'ю Лагуноўскую на кватэры ў знаёмай. Сяброўкі сядзелі за шыкоўным сталом і пілі віно.

—Як справы, Соф'я Аляксееўна? —спытаў Каршакоў у жанчыны, калі тая прысела на канапу ў другім пакоі.

—Самі бачыце, —незадаволена адказала тая. —Вы ў мяне пытаецеся, быццам не ведаеце, што здарылася. Я вам ужо двойчы расказвала ўсё да дробязі, што тычылася мяне. Усё ж вядома, як Божы свет!

—Што вядома? —перапытаў следчы.

—Тое, што майго мужа з-за рэўнасці да сваёй жонкі забіў Алег Лапцікаў. Сам загінуў, калі ўцякаў.

—А якім чынам тады на сядзенні матацыкла, як вы сцвярджаеце, на якім ўцякаў Алег Лапцікаў, засталіся вашы адпячаткі пальцаў?

—Мае?..

—Вашы.

—А вы ў мяне не бралі адпячаткаў пальцаў.

—Іх неабавязкова браць з дазволу, вы іх пакідаеце на кожным кроку.

—Сур'ёзна? —здзівілася Лагуноўская і закурыла. —Я люблю хуткую язду.

—З кім канкрэтна на мінулым тыдні вы каталіся на матацыкле?

—Са знаёмым. А што такое?

—Вы яму заплацілі грошы, каб забіў мужа?

—!..

—Што замоўкла?

—Я больш нічога не скажу без адваката, —Лагуноўская нервова страсянула цыгарэты попел на падлогу.

—Адвакат —не праблема, Соф'я Аляксееўна. Зараз пачнём афіцыйна весці пратакол допыту і, калі ласка, хай прысутнічае і ваша абарона, —сказаў Каршакоў. —Толькі скажыце мне, не афіцыйна, як вы, адукаваная, сімпатычная жанчына, змаглі пайсці на такое.

—Я не забівала мужа...

4

"Сапраўды, перш чым забіць чалавека, патрэбна ўчыніць яшчэ адно забойства: забіць любоў да яго", —разважаў Сініцын, едучы да Гаўрылёвых. Лагуноўская заказала забойства мужа не з-за таго, што кахала яго і не магла перажыць здраду, а таму, што тое багацце, якое накапілася за час сумеснага жыцця, трэба было дзяліць. Забойца, каб скіраваць следства на няправільны след, забівае мужа Валянціны Лапцікавай, падкідвае яго цела на месца, дзе, быццам, адбылося дарожнае здарэнне, каб адвесці следства ад забойства прадпрымальніка.

Ланцужок думак пра раскрытае злачынства раптоўна абарваўся: колы аўтобуса зашоргалі на гравейцы, і ён спыніўся. Сініцын ступіў з прыступкі на зямлю і тут жа трапіў ў Верыны абдымкі.

—Я ўжо і не спадзявалася, што ты прыедзеш, — хітруючы, сказала яна.

— Павер, не было часу заехаць раней, — сур'ёзна адказаў Васіль. —Раскрылі арганізаванае забойства, неардынарнае...

—Не трэба, Васіль, расказваць пра страшнае. Мне не хочацца пра гэта чуць.

—Ты не хочаш чуць пра вынікі маёй працы? —здзівіўся Васіль.

—Не. Ты не так мяне зразумеў. Я хачу сёння чуць толькі пра светлае...

Васіль змоўк. Ён ужо даўно заўважаў, што Вера раўнадушная да яго службовых спраў. Ды і не цікавіла яе нічога, што крымінальнае адбываецца ў раёне. Не —дык не. Можа, думаў, так і лепш. А ўвогуле, пачаў заўважаць, што яна нібы гуляе з ім, але, да ўсяго, не зусім шчырая, усё пытае, ці правядзець яго куды вышэй, у вобласць, напрыклад, як там зарабляюць, што з жыллём. Зрэшты, напэўна, някепскае жыццёвае жаданне ведаць пра гэта, някепска імкнуцца да такога, але ж калі адно і тое, як пішуць, праз кожны крок, калі яно засціць свет, дык не па сабе ажно... Як і зараз.

Некалькі тыдняў рыхтаваўся да сённяшняга дня, каб прасіць у бацькоў дазволу ажаніцца з Верай. Колькі разоў абдумваў, што ў характары дзяўчыны добрага, а што —не, з трывогай думаў пра іх сумеснае будучае, адчуваючы, што любіць яе такую, якая яна ёсць, рашыўся прасіць яе стаць жонкай. Але ідучы па вуліцы, ён адчуў, што паступова пачынае сумнявацца. Няшчырая яна з ім, ці калі любіць, то неяк дзіўна. Ён ужо шкадаваў, што прыехаў.

—Чаго замаўчаў? —зазірнуўшы яму ў вочы, запытала Вера.

—Ды так... —ледзь выціснуў Васіль і слаба ўсміхнуўся.

Вера спынілася, стала насупраць.

—Я ж адчуваю, што ў цябе не ўсё так, як трэба.

—Няўжо ты яшчэ можаш і адчуваць? —пакрыўджана, і ў той жа час кпліва, заўважыў Васіль. —Мне здаецца...

—Ну, ну... Што табе здаецца?

—Здаецца, што ты не кахаеш мяне.

Запярэчыць Вера не змагла. Яна хітравата ўсміхнулася і, каб перавесці размову на іншае, пацягнула яго за руку.

—Пойдзем.Вунь мама каля каліткі. Чакае...

Васіль нясмела падаўся наперад, адчуваючы, што словы яго якраз трапілі туды, куды трэба. Падумаў: "Можа, і правільна зрабіў, сказаў, лепей абаім будзе".

Любоў Мікалаеўна сустрэла іх як ніколі стрымана і, як здалося Васілю, насцярожана.

—Правядзі Васіля ў дом, а мы з табой на хвіліну зойдзем у школу. Камісія з вобласці прыехала, —сказала яна дачцэ.

—Што, зараз?

—Хуценька. Мы і так спазняемся.

Васіль зайшоў у дом, хацеў прысесці і ўключыць тэлевізар, як праз акно заўважыў Надзейку. Ён з павагай ставіўся да малодшай дачкі Гаўрылёвых, цаніў яе за разважлівасць і дабрату. "Праз год-два нейкаму шчаслівыку дастанецца" —падумаў ён і выйшаў насустрач.

—Прывітанне, Надзейка.

—Добры дзень, —ціха адказала дзяўчына і сарамліва апусціла вочы.

—У мяне такое адчуванне, быццам у гэтым доме нешта здарылася, —Васіль асцярожна крануўся да яе рукі, што была проста гарачая, ажно апякла. Яна не адняла сваю. —Ходзіце нейкія насупленыя.

—У нас усё добра, —Надзейка выслабаніла руку і вінавата зірнула на Васіля. —Зараз маці з Верай прыйдуць. Уключай тэлевізар, а я пайду ў сад.

— Я хачу з табой...

Надзейка рашуча паглядзела яму ў вочы і так жа рашуча сказала:

—Няпраўда. Ты кахаеш Веру. Табе больш хочацца быць з ёй, чым са мной.

Васіль разгубіўся. Ён не ведаў, што на гэта адказаць. Няўжо яна яго шкадуе, што кахае сястру? Чаму? Можа, яна мае на ўвазе нешта іншае?

Сказаць ёй пра свае сумненні, што Вера яго, бадай, не кахае, і няёмка і сорамна: дужа асабістае. А вось Надзейка, здаецца, да яго неабыякавая: вунь як пунсавее яе твар і вочы —задуменныя. Ды і ён побач з Надзейкай зараз адчувае сябе так, як наогул ніколі не адчуваў: на сэрцы нейкая незразумелая шчымлівасць ці то самота, ці то не спазнаная дасюль радасць. Нібы аднекуль здаля накочваецца яе гаючая хваля і лагодзіць —лагодзіць душу.

Ён прысеў каля яе, прытуліў да сябе і, гледзячы ў поўныя слёз вочы, сказаў:

—Калі быць чэсным, то мне больш, сапраўды, падабаешся ты. Вы хоць і сёстры, але розныя. Вера нейкая... —ён не дагаварыў, а яна і не пытала якая сястра.

—А чаму ж тады ты хочаш з ёй... —і яна таксама недагаварыла.

—Не ведаю. Але зараз зразумеў, што рабіць гэтага нельга.

—Праўда? —Надзейка шырока расплюшчанымі вачамі паглядзела на яго.

—Так, —адказаў Васіль. —Гэта будзе лепей для нас...

—І для нас, —дзяўчына асцярожна дакранулася вуснамі да яго шчакі.

Пяшчотны пацалунак ацяпліў яго сэрца. Ён глядзеў на Надзейку, вельмі падобную да маці, такую ж мілую і зычлівую. Яе дзявоцкасць выяўляла вясну. Тую, аб якой і марыў Васіль.

ВЫСТАВЫ

# ГІСТОРЫЯ КІНО — У ПЛАКАЦЕ

7-30 МАЯ ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва праходзіць выстава-турнэ "Плакаты кінастудыі UFA да кінапрэм'ер 1918-1943 гг." Гэта сумесны праект Фонду нямецкай кінематыкі, Аўстрыйскай нацыянальнай бібліятэкі і Інстытута Гётэ. Болей за 50 плакатаў адлюстроўваюць на выставе гісторыю нямецкага кіно.

Прамежак часу паміж дзвюма сусветнымі войнамі стаўся часам існавання кінастудыі Universum Film AG (UFA). У пачатку 1918 г. тут працавалі, бадай, самыя таленавітыя кінадзеячы свайго часу: рэжысёры Эрнст Любіч і Пауль Вегнер, кіназоркі Пола Негры, Эміль Янінгсан і Аст Нільсен. Да сярэдзіны 20-х гадоў мінулага стагоддзя ў мастацкай праграме UFA пераважалі гістарычныя, фантастычныя і экспрэсіяніцкія фільмы. Гэтыя стужкі былі разлічаны не толькі на ўнутраны, але і на міжнародны рынак. На дапамогу нямецкаму кіно прыйшла гістарычная літаратура, сусветная класіка ды фантастычныя сюжэты з жыцця ўладароў Усходу. Рамантычныя гісторыі кахання і багацейшы пастановачны антураж садзейнічалі стварэнню дзесяткаў захапляючых фільмаў.

Варта адзначыць, што кінастудыя UFA стварала сваім зоркам цудоўную рэкламу. Заказы на плакаты да кінапрэм'ер нярэдка атрымлівалі тры мастакі-графікі адначасова. У Берліне і Вене друкаваліся эксклюзіўныя палотны і за тыдні да прэм'еры расклейваліся на рэкламных тумбах, дамах, сценах. Плакаты ствараліся лепшымі мастакамі-афарміцелямі свайго часу: Тэа Матэйка, Йозефам Фенекерам, Робертам Л. Леанардам, Вернерам Гаўлем, Хайнцам Шульц-Найдамам, і Петэрам Певасам. Іх працы, як і рэкламуемыя кінастужкі, адметныя вострым экспрэсіянізмам.




Пасля захопу ўлады фашыстамі ў 1933 г. дзяржава паступова стала кантраляваць усю нямецкую кінапрамысловасць. Плакаты UFA цалкам адлюстравалі нацыяналістычным клішэ, перадавалі "сучасную" прапаганду з дапамогай тэхнічных сродкаў. У праграме UFA тых гадоў — не толькі кінакамедыі з Хансам Альберстам, Хайнцам Руманам і Лімам Харвэй ("Чалавек, які быў Шэрлакам Холмсам", "Улюбёнцы лёсу"), фільмы-аперэты і фільмы-рэвю з Марыкай Рок і Йоханэсам Хестэрсам ("Хэло, Жанін"), меладрамы з Сарай Леандэр ("Да новых берагоў", "Радзіма"), але і прапагандысцкія фільмы рэжысёраў Карла Рытэра і Вэйты Харлана.

На выставе экспануюцца найбольш вядомыя плакаты кінастудыі UFA да кінапрэм'ер 1918—1943 гг.: "Кармэн" (1918) і "Мадам Дзюборы" (1919) Эрнста Любіча (цудоўная магчымасць убачыць маладую своеасаблівa прыгожую, эфектную актрысу Полу Негры); "Апошні чалавек" (1924) і "Фауст" (1926) Фрыдрыха Вільгельма Мурнаў. Дарэчы, упершыню экспануюцца ўсе плакаты да кінастужак, знятых на студыі UFA аўстрыйскім рэжысёрам Фрыцам Лангам: "Доктар Мабузэ, ігрок" (1922) (вобраз звышчалавека, беспакарна здзяйсняючага жудасныя злачынствы), "Нібелунгі" (1924) (выкарыстанне старажытнагерманскага эпасу для ўсхвалення ваеннай велічы германскай нацыі), "Метраполіс" (1925-1926) (фантастычная гісторыя з жыцця чалавечага грамадства ў 2000 г.), "Шпіён" (1928) і "Жанчына на Луне" (1929).

Наста ЛІТВІН

"МАЛАДЗЕЧНА—2003"



***Беларусь багатая на таленты, што кожным разам пацвярджае Нацыянальны фестываль беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне. Але ж гэта не толькі грандыёзнае свята, магчымасць папулярызацыі творчых дасягненняў у айчыннай літаратуры і ў песенным, эстрадным мастацтве. Гэта і час узыходжання новых зорак Беларусі. Напрыклад, менавіта фестываль у Маладзечне стаўся пачаткам творчага шляху знакамітай сёння Вікторыі АЛЕШКІ.***

# БУДУЦЬ І НОВЫЯ ПЕСНІ

*— Вікторыя, якія ў вас засталіся ўспаміны пра першае выступленне на фестывалі ў Маладзечне?*

— О, гэта вельмі яркія ўспаміны. У 1998 годзе я толькі-толькі рабіла першыя крокі на вялікай сцэне: усяго год працы салісткай у студыі "Верасы". Як жа я хвалявалася ў Маладзечне! Шчыра кажучы, недарма, бо канкурэнцыя была належная, ды журы — вартае павагі. Аднак я нават не памятаю, хто выступаў. Старалася нікога не слухаць, каб не спалохацца, не страціць упэўненасць. Выступіла, як быццам застаючыся сам-а ў сабе. Ведала, як трэба было працаваць, і адпрацавала, не зважаючы ні на кога. Атрымала Гран-пры.

Перамога ў 98-м вельмі значная для мяне: было ж гэта ўпершыню! А тое, што адбываецца ўпершыню, застаецца ў сэрцы і ў памяці назаўжды. Тым больш, рэспубліканскі фестываль лічыцца своеасаблівай прыступкай да міжнародных конкурсаў. Я перамагла з песняй "Світальны анёл" — музыка Васіля Раінчыка і словы Уладзіміра Някляева. Другая песня гэтых жа аўтараў — знакамітая "Белае віно і чырвонае".

Дарэчы, менавіта ў 1998-м у Маладзечне былі першыя ў маім жыцці аўтографы. Вельмі прыемнае, незвычайнае пачуццё: вось я перамагла, атрымала прыз, і, калі спусцілася са сцэны, безліч прыхільнікаў абступіла мяне.

*— З чым вы збіраецеся выступіць сёлета?*

— Як заўважыў шаноўны маэстра Міхал Фінберг, я адкрыю фестываль (песняй "Світальны анёл", і гэта вельмі вялікі гонар для мяне. Прагучаць і зусім

МУЗЫКА

***Музычным сувязям Беларусі і Кракава ўжо амаль 700 гадоў. У 1325 г. у старажытную польскую сталіцу прыехаў першы беларускі ансамбль — прыдворная капэла Альдоны (Ганны), дачкі вялікага князя Гедыміна, якая выйшла замуж за польскага караля Казімежа Вялікага і прывезла з сабою ў Кракаў вялікую любоў да інструментальнай музыкі. З фактаў далейшай гісторыі можна было б скласці цэлую энцыклапедыю ў пацвярджэнне вельмі плённых, узаемавыгадных музычных дачыненняў Беларусі ды Кракава.***



Сёння пішацца працяг гэтай гісторыі. Прынамсі, у чэрвені 2003 г. беларускі Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава запрошаны на знакаміты Міжнародны фестываль сучаснай музыкі "15 дзён музыкі кракаўскіх кампазітараў". Ён прадставіць тры розных праграмы: "Трыумф Паланеза", Канцэрт сучаснай беларускай музыкі і Юбілейны канцэрт Збігнева Буярскага. Кампазітар пажадаў, каб яговыя творы прадстаўляў менавіта беларускі ансамбль, з якім ён плённа супрацоўнічае.



# ПА СЛЯДАХ АЛЬДОНЫ

Разам з "Класік-Авангардам" у Кракаў запрошаны нашыя знаныя суайчыннікі: музыказнаўца Радаслава Аладава, кампазітары Віктар Капыцько, Вячаслаў Кузняцоў, Яўген Паплаўскі, чые творы прагучаць на фестывалі ў канцэрце сучаснай беларускай музыкі (тамсама будзе выканана музыка Галіны Гарэлавай, Сяргея Янковіча, Дзмітрыя Лыбіна). Кракаў наведае таксама дырэктар Віцебскай абласной філармоніі і дырэктар фестывалю імя І. Салярцінскага Уладзімір Правілаў. Ён не адзін год плённа супрацоўнічае з дырэкцыяй кракаўскага фэсту, дзякуючы чаму ў Віцебску выступалі выдатныя польскія музыканты — піяніст, прарэктар Кракаўскай музычнай акадэміі Анджэй Пікуль, кларнетыст, прафесар Анджэй Годэк, кампазітар Збігнеў Буярскі і інш.

Напярэдадні гэтай буйной беларуска-польскай культурнай акцыі ансамбль "Класік-Авангард" прадставіў адну з памянёных праграм мінскаму слухачу. Як і паведамляў "ЛіМ", прэм'ера адбылася ў Зале камернай музыкі 15 мая. Гэта быў аўтарскі канцэрт Збігнева Буярскага — да 70-годдзя кампазітара.

Сучасная кракаўская кампазітарская школа — адна з найвядомых у Еўропе. Не толькі імя Кшыштафа Пендэрэцкага зрабіла яе авангарднай у сусветнай музыцы. У шэрагу выбітных постацяў, што прынеслі цудоўнаму гораду музычную славу, не апошнюю ролю адыграў і Збігнеў Буярскі, чыя Contraria была адзначана на Міжнароднай трыбуне кампазітараў UNESCO у 1967 г. у Парыжы....

Атрымаўшы адукацыю ў Вышэйшай музычнай школе ў Кракаве, дзе ён цяпер выкладае кампазіцыю, Буярскі выходзіць на сцэну польскага авангарда ў канцы 50-х, што абумовіла выбар адпаведнай часу кампазітарскай тэхнікі, пошукі гукавога матэрыялу, яго ўзбагачэнне чвэрцьтонамі, санарыстычныя ды інструментальныя эксперыменты (напрыклад, ужыванне ўзмацняльнай і прайгравальнай апаратуры і да т. п.). Ён стварыў багата аркестравай, вакальна-інструментальнай, камернай музыкі. Менавіта камерную творчасць музыказнаўцы лічаць найдасканалай формай мастакоўскага выяўлення Буярскага апошніх гадоў. Пра гэта сведчаць і творы, уключаныя ў рэпертуар "Класік-Авангарда": струнныя квартэты і цыкл "Страх птушак" з яго абмежаваннем і, адначасова, кандэнсацыяй сродкаў, сілай выразнасці.

Асаблівую цікавасць самога кампазітара выклікаюць струнна-смыковыя інструменты, яговыя музы ў горадзе муз — Кракаве. Яго музыка, цяжкая для ўспрымання сваёй шматзначнасцю і асэнсаваннем формы, прыцягвала ўвагу мінскіх слухачоў унутраным рухам, зменлівасцю музычнай тканіны, асабістым, шчырым выказваннем аўтара, "які хутчэй не навязвае сваю думку, а ставіць пытанні", мастацкім адчуваннем гукавых фарбаў (нявыпадкова другая пасія кампазітара — жывапіс). "Квартэт на Восень" і "Квартэт на Адвэнт" — гэта, на думку Буярскага, вяртанне да большай інтымнасці, якую найчасцей ён рэалізуе ў малым ансамблі.



новыя творы. Напрыклад, песня "Позняе таксі" (музыка заслужанай артысткі Беларусі Ірыны Цвятковай, словы Алеся Бадака). Напісана яна якраз для Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі і менавіта для фестывалю. Гучыць проста дзівосна, зачароўвае і ўражвае. З нецярпеннем чакаю той хвіліны, калі вынесу песню на суд слухачоў. Безумоўна, яны пачуюць і ўжо вядомыя ў маім выкананні творы: "Белае віно і чырвонае", "Балада гусляў".

***— Якія надзеі і чаканні, звязаныя ў вас з фестывалем?***

— Вельмі чакаю сустрэчы з сябрамі. Ды і сам горад мне даспадобы, еду ў Маладзечна з вялікай асалодай. Між іншым, публіка там цудоўная, прымае выдатна. Да таго ж, не кожны дзень давозіцца працаваць з аркестрам. Гэта і хвалююча, і прыемна — непаўторныя пачуцці!

Фестываль ёсць фестываль — заўсёды праходзіць грандыёзна. Тым больш, гэта фестываль беларускай паэзіі і песні. А нам варта прапагандаваць нашы родныя мастацкія каштоўнасці, каб грамадства ведала і любіла іх.

***— Як вы лічыце, ці з'явяцца новыя імёны на нашай сцэне пасля фестывалю?***

— Безумоўна, зазіхацяць новыя зорачкі. Свет жа імчыць наперад. Але варта памятаць: рухацца па творчым шляху трэба паступова. Вельмі шмат таленавітай моладзі, лаўрэатаў, нібы знікла. Мы іх ужо не памятаем, мы іх не ведаем. Здавалася б, зорачка ўзышла, і раптам нешта не атрымалася, не склалася ў жыцці. Аднак трэба спадзявацца на лепшае. Удзельнікам конкурсу я, перш за ўсё, жадаю веры ва ўласныя сілы і беспераможнага жадання здзейсніць мару.

**Наста ЛІТВІН**



"Жанр смыковага квартэта — кшталту прыватнага ліста, які кампазітар піша канкрэтнаму адрасату... Мне вельмі імпануе гэты вельмі асабісты характар музыкі...", — сцвярджае аўтар. Асабліва натхнёнай і ўдалай кампазіцыяй падаецца вобразны і экспрэсіўны "Квартэт на Адвэнт", у поліфанічнай тканіне якога зашыфраваны каталіцкія літургічныя мелодыі. Выкананне вызначалася глыбокім перажываннем задумаў аўтара, высокапрафесійнай іх інтэрпрэтацыяй, што наогул уласціва "Класік-Авангарду". Гаварылі скрыпкі, альт, віяланчэль...

У Мінску прагучаў таксама адзін з лепшых твораў кампазітара "Страх птушак". Як вядома, слынны авангардыст XX ст. Аліўе Месіян яркія старонкі сваёй творчасці прысвяціў "птушынай" тэме, якую распрацоўвалі і многія творцы ў розныя часы. Кампазіцыя З. Буярскага (1993 г.) прысвечана 60-годдзю К. Пендэрэцкага і ўпершыню выканана на юбілейным канцэрце ў гонар Майстра разам з творамі іншых яго сяброў і калегаў. Пазней З. Буярскі пашырыў "Страх птушак" да 3-х частак, кожная з якіх сталася і самастойным творам, а не толькі часткай цыкла, паяднаўшы струнныя, перкусію ды кларнеты.

Праграма з твораў З. Буярскага — ужо сёмы канцэрт з цыкла "Сілуэты польскіх сучасных кампазітараў". Ажыццявіўшы яго, "Класік..." пацвердзіў, што знаходзіцца ў авангардзе беларускага выканальніцтва.

А наперадзе — новыя падзеі на кракаўскім фестывалі...

**Аляксей ФРАЛОЎ**
**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА**

**МАЙСТРЫ**

# АКАДЭМІЯ ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

***На гістарычна кароткім адрэзку свайго станаўлення ГА Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва" пасля перарэгістрацыі ў 1999 годзе прайшла яшчэ адзін важны этап. Сёлета ў маі адбудзецца чарговы Агульны сход акадэмікаў.***



Справаздачны даклад адлюстраваў рэальны стан спраў у акадэміі, іх дынаміку, якая безумоўна ёсць. Так, правадзейнымі сябрамі ГА БелАВМ сталі Міхал Баразна, Сяргей Грыневіч, Павел Татарнікаў, Юрась Якавенка, творчасць якіх добра вядома ў нашай краіне і за яе межамі. Ёсць першыя ганаровыя акадэмікі — жывапісец Кшыштаф Ваховяк (дэкан Варшаўскай акадэміі выяўленчага мастацтва) і мастацтвазнаўца Фердынанд Рушчыц (унук вядомага мастака, дырэктар Нацыянальнага музея ў Варшаве).

Годна прадстаўляючы нацыянальнае мастацтва, акадэмікі ўдзельнічалі ў 216 персанальных і калектыўных выставах у шматлікіх музеях, галерэях Беларусі і замежжа. Умацоўваліся сувязі з выставачнымі пляцоўкамі розных рэгіёнаў, у выніку чаго з творамі акадэмікаў пазнаёміліся жыхары Брэста, Пінска, Полацка, Гродна, Гомеля, Магілёва, Ліды, Валожына, Івянца, Гальшан, Барысава, Баранавіч, Слуцка. Такім чынам, выконвалася асноўная статутная мэта акадэміі — далучэнне суайчыннікаў да апошніх працэсаў у сучасным нацыянальным мастацтве. Дзякуючы віцэ-прэзідэнту ГА БелАВМ жывапісцу Уладзіміру Зінкевічу асабліва плённым атрымалася супрацоўніцтва з яго землякамі. У светлагорскай мастацкай галерэі "Традыцыя" экспанаваліся персанальныя выставы амаль усіх акадэмікаў. Значнасць калекцыі твораў галерэі грунтуецца на іх працах.

Акадэмія арганізавала і правяла Міжнародныя пленэры "Неба і зямля Фердынанда" на радзіме выдатнага мастак Фердынанда Рушчыца. Ягоныя прамыя нашчадкі ўпершыню ў поўным складзе прымалі ўдзел у святочных мерапрыемствах. Мэта пленэру — адбудова сядзібы ў Багданаве і годнае ўшанаванне памяці мастака, які напоўніцу чэрпаў натхненне з прыгажосці нашай Бацькаўшчыны, уславіў яе арыгінальнымі творамі, і магіла якога з'яўляецца сімвалічным абярэгам культурніцкіх працэсаў на гэтых землях у канцы XIX — першай палавіне XX стагоддзя.

Працягваецца праца з творчай моладдзю. Стыпендыі і азначэнні акадэміі атрымалі 12 студэнтаў і выпускнікоў БДАМ з магчымасцю выстаўляцца на штогадовых акадэмічных выставах.

Акрамя каталогаў, даведнікаў, календароў ГА БелАВМ падрыхтавала і пачала выдаваць (па частках) унікальную для айчыннага мастацтвазнаўства кнігу — "Дзённік" Фердынанда Рушчыца. Да выдання кнігі спрычынілася сям'я мастака, Польскі Інстытут у Мінску і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Апошняму ГА БелАВМ штогод дасылае на азнаямленне справаздачы пра дзейнасць акадэміі з планамі на наступны год і прапановамі на ўдзел у сваіх новых праектах. За агромністы творчы ўклад у нацыянальную культуру старэйшых калегаў-акадэмікаў, народных мастакоў Беларусі Леаніда Шчамялёва і Гаўрыла Вашчанку акадэмія падчас юбілейных святкаванняў ушанавала сваімі вышэйшымі ўзнагародамі — "Залатым медалём" і "Пярсцёнкам Акадэміка". На дзяржаўным узроўні іх выключныя творчыя дасягненні адзначаны стварэннем персанальных галерэй у Гомелі і Мінску. ГА БелАВМ таксама заснавала Музей у мястэчку Ракаў, у сядзібным комплексе акадэмікаў Фелікса і Валяр'яна Янушкевічаў, дзе можна пазнаёміцца з працамі правадзейных сяброў акадэміі і гісторыка-мастацкай спадчынай рэгіёна.



Клопат пра захаванне матэрыяльных і духоўных нацыянальных каштоўнасцяў — адна са статутных задач, у сувязі з чым Прэзідыум акадэміі звярнуўся да гарадскіх улад з прапановаю наладзіць азнаямленне з забудовай старажытнай Нямігі комплексам аўтастаянкі з крамамі.

Пад патранажам ГА БелАВМ праходзяць, па ініцыятыве акадэміка Юрася Якавенкі, выставы "Міні-прынт" у Гародні, Магілёве і Мінску. Дзяржаўнай прэміяй РБ узнагароджаны акадэмік-графік Валерый Славук. Гран-пры "Залаты яблык" Міжнароднай біенале мастацтва дзіцячай кнігі ў Браціславе ўпершыню ў краінах Усходняй Еўропы атрымаў Павел Татарнікаў. Міхаіл Баразна стаў удзельнікам буйнейшай мастацкай акцыі — 8-й Трыенале сучаснага міжнароднага мастацтва ў Вільні. Да юбілею класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа акадэмік, народны мастак Беларусі В. Шаранговіч аздобіў выдатнай акварэльнай нізкай унікальнае трохмоўнае выданне паэмы "Новая Зямля".

Сярод творчых акцый сваёй лагічнай паслядоўнасцю вылучаюцца штогадовыя выставы акадэмікаў, на якіх экспануюцца новыя работы. Гэта добрая традыцыя, якая існуе ў еўрапейскіх краінах, дзе праходзяць агульнанацыянальныя выставы адметных прафесійных мастакоў. Раней, калі Саюз мастакоў Беларусі меў выставачную стратэгію і развітую базу Мастацкага фонду, такую ролю адыгрывалі рэспубліканскія выставы. Патрапіць на іх лічылася за гонар. Там фармавалася ўяўленне пра аблічча мастацтва рэспублікі. Але галоўнае — на выставах выкрышталізоўвалася канцэпцыя нацыянальнай беларускай мастацкай школы праз пэўны ўзровень творцаў.

На сённяшні дзень рэгулярныя штогадовыя акадэмічныя выставы застаюцца тым творчым форумам, на які прадстаўляюцца працы мастакоў са сталіцы і рэгіёнаў для паказу ў прэстыжных залах мінскіх музеяў і галерэй па зразумелым прынцыпе — значнасці ўкладу аўтараў у нацыянальную мастацкую культуру і адпаведнасці дэвізу акадэміі "Талент і мараль" — адзінаму вызначальнаму фактару прыёму ў правадзейныя сябры.

Рэалізацыя шматгадовага акадэмічнага выставачнага праекта "Беларускае выяўленчае мастацтва на мяжы тысячагоддзяў" вядзецца з планамерной паслядоўнасцю ад 1998 г. Па сваёй форме ён адпавядае рознастылёвым, індывідуальным арыенцірам акадэмікаў, у большасці прадстаўнікоў сярэдняга пакалення. Менавіта яны ўтварылі самую высокую хвалю актыўнасці сучаснага беларускага мастацтва і сцвердзіліся ў 1970–1990-х гадах. Перыяд, калі ішло актыўнае асэнсаванне новых каштоўнасцяў праз шырокі кантакт з дасягненнямі заходніх мастацкіх школ.

Усе правадзейныя сябры акадэміі захавалі ўласнае мастакоўскае аблічча дзякуючы разуменню дыялектычнай сувязі пераемнасці творчых здабыткаў розных пакаленняў і павагі да пошукаў прадстаўнікоў апошняй генерацыі, той таленавітай моладзі, з якой акадэмікі знаходзяцца ў шчыльных кантактах, паколькі непасрэдна звязаныя з працэсам навучання як выкладчыкі, дацэнты і прафесары на ўсіх узроўнях мастацкай адукацыі нашай краіны.

Прысутнасць прац моладзі і заможных мастакоў — удзельнікаў Міжнародных пленэраў — на апошніх выставах акадэмікаў выдатна сцвердзіла рэальныя магчымасці іх суіснавання з усімі пакаленнямі творцаў і мастацкімі школамі на прынцыпах упэўненай духоўна-нацыянальнай раўнавагі, характэрнай еўрапейцам і выразна бачнай на прыкладзе спадчыны нашых суайчыннікаў А. Міцкевіча, І. Храптовіча, Ф. Рушчыца, В. Бялыніцкага-Бірулі, С. Жукоўскага. Гэта міжволі адчувалася на прысвечаных ім выставах "Шлях да Міцкевіча", "Час светлых ценяў", "Неба і зямля Фердынанда", "Краса Айчыны", на якіх фармуюцца сучасныя арыенціры мастацкай культуры Беларусі, яе мастакоўскай ідэалогіі.

**Ян КАРЛОВІЧ**

# ТАНЦУЮЦЬ УСЕ!

***25-годдзю кафедры харэаграфіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры прысвячаўся канцэрт, наладжаны ў сталічным Палацы культуры чыгуначнікаў.***

Спадзяюся, не пакрыўдзіцца на мяне аўтар спыненых фотаімгненняў, калі выдам чытачам ягоную "таямніцу". Перагружаны працай, Канстанцін Дробаў збіраўся зрабіць 2-4 здымкі ды пайсці. А затрымаўся ў зале да канца імпрэзы, якая доўжылася аж тры гадзіны. Факт, красамоўны не менш за рэцэнзію, ці ж не праўда?

Яшчэ факты. Кожныя 5 гадоў ладкуе кафедра справаздачныя канцэрты, збіраючы сваіх выпускнікоў з усёй краіны (на сёння іх ужо каля 650). І штораз з усё большымі праблемамі ўладкоўваецца на іх публіка. Для юбілейнай імпрэзы нават зала ПК чыгуначнікаў падалася цеснай: многія гледачы мусілі стаяць, тулячыся да сцен. Але ніхто не скардзіўся на стомленасць, хаця ў праграме адчувалася імкненне гаспадароў урачыстасці ахапіць неахопнае. (Уявіце: 18 нумароў у першым аддзяленні, 15 — у другім, якое арганічна прадоўжылася віншавальна-шанавальнай цырымоніяй). Пэўна, само відовішча падсілкоўвала жыццядайнай энергіяй і размаітымі эмоцыямі, у вясёлкавым спектры якіх адчуваўся магутны станоўчы зарад.

Маладосць, дабрыня, дасціпнасць, сур'ёзнае стаўленне да прафесіі. Талент і працавітасць. Словы, словы... Не, імі не перадасі паўнату і свежасць непасрэдных уражанняў, якія міжволі спараджалі пытанні. Чаму мне толькі сёння адкрылася гэтая жывая і яркая творчая з'ява? Чаму мастацтва педагогаў і выхаванцаў кафедры харэаграфіі БДУ культуры не робіцца набыткам шырокай публікі? Чаму яно "нераскручанае" — хаця б у сталіцы, дзе канцэртнае надвор'е (якое ўплывае і на дасведчанасць, і на прыярытэты, і на густ масавай публікі) вызначаюць пераважна камерсанты ад культуры?..

Пэўна, ёсць у кафедры (ды на кафедры) нейкія іншыя праблемы. Але ў той вечар яны засталіся па-за межамі сцэны. Відовішча, што разгарнулася на ёй, паводле эстэтычных вартасцяў магло б канкурыраваць і з папулярнымі ў Мінску справаздачнымі канцэртамі Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа, і з "валютнымі" праграмамі вядучых майстроў айчыннага мастацтва. Танцы народаў свету з ненадакучлівым акцэнтам на сваіх, беларускіх, у вынаходлівых пастаноўках, з ашчадлівым стаўленнем да традыцыи, пад музыку ў сучасных дасціпных аранжыроўках (у тым ліку — з рэпертуару гуртоў "Юр'я", "Крупіцкія музыкі", "Палац"). Танга, класічны рок-н-рол, вальс, экзатычныя матывы усходняй пластыкі, спартыўны танец і танец дзіцячы, тэмпераментныя любоўныя дуэты і "трохкутнікі", харэаграфічныя фантазіі, мова якіх ёсць працяг пачуцця, сканцэнтраванага ў музыцы...

Што было "самае-самае"? Усё. Прынамсі, мне імпанавалі работы і педагогаў — С.Гуткоўскай, А.Шылкінай І.Канавальчык, Л.Яфрэмавай, і цяперашніх студэнтаў — А. ды В.Вялічкаў, А.Ключнікавай, М.Жукавец, і выхаванцаў кафедры, што працуюць самастойна і нават кіруюць харэаграфічнымі калектывамі, — Д.Куракулава, А.Карповіча, С.Манзалеўскага, І.Стамінскай, В Гарэлавай ды інш., ды інш. Танцавалі, здаецца, усё — і усе: выкладчыкі, выхаванцы студый, ансамблі-лаўрэаты, артысты Маладзёжнага тэатра эстрады... І як можна параўноўваць, напрыклад, арабскі танец "Дыханне ўсходу" ў "аўтарскім выкананні" уладальніцы Гран-пры фестывалю "Усходнія ласункі" А.Грынчык (сцэнічны псеўданім Жасмін) і "Саламяных хлапчукоў" са знакамітага ансамбля "Белая Русь", местачковыя замалёўкі ў "Балаганчыку" ўзорных дзетак з аршанскіх "Весялушак" і папуры на тэмы танцавальных нумароў акадэмічнай групы студэнтаў народнага аддзялення выпуску 2001г. (між іншым, сярод выканаўцаў быў і вядучы канцэрта, дыктар тэлебачання Д.Карась) , дуэт выкладчыкаў БДУ культуры Н.Карчэўскай ды М.Камінскага і мужчынскі танец з творчай майстэрні Л. ды А.Яфрэмавых. А якія дзівосы артыстызму ды пераўвасаблення паказаў ансамбль кафедры харэаграфіі!

"Святочны вальс" на музыку А.Хачатурана плаўна падвёў да ўрачыстай кульмінацыі: галантныя кавалеры ды шляхетныя дамы ўлучалі ў сваё танцавальнае кола новых партнёраў, прадстаўляючы публіцы руплівцаў-педагогаў, шаноўных настаўнікаў. А сярод іх — і Ю. Чурко, якая была ля вытокаў станаўлення кафедры і доўгі час яе ўзначальвала, і цяперашняя загадчыца С. Гуткоўская, у абаяльнай усмешцы якой ёсць няўлоўнае падабенства з абліччам яе знакамітай і цудоўнай папярэдніцы. Мабыць, у гэтым невытлумачальным падабенстве непаўторнага і выяўляецца духоўная повязь настаўнікаў ды вучняў, пераемнасць творчых памкненняў...

С.БЕРАСЦЕНЬ
*Фота К.ДРОБАВА*



















## літаратурны квартал

Валянціна ГАРНІСТАВА

•

*Пераможца вайны за змрок —*
*Куляй смерці ды ў вечны крок,*
*Сонцу ў пашчу, згубіўшы зрок, —*
*Варона. Неба. Усход.*
*На крылах — тысячы тысяч слоў,*
*У дзюбе — стужка памерлых сноў.*
*Не верыць птушка ў палёт — і зноў,*
*І зноў чарговы ўзлёт.*
*Ляціць варона. У сэрцы жах.*
*Зямля!!! Напружаны крыл узмах.*
*Бліжэй няволя. Антэны. Дах.*
*Машыны. Людзі. Праспект.*
*Кроў, нібы тысяча тысяч слоў,*
*Усё — адбіцці ўваскрэслых сноў.*
*Жыцця разбітае шкло — далоў!*
*Закрыўся лёсу канспект...*
*...Заміж цемры ў вачах святло,*
*Сонца пацеркі праз акно.*
*Смерць: было або не было?*
*Жыцця адкрыты працяг.*
*...У думках — тысячы тысяч слоў.*
*У зламаных пальцах вянок са сноў.*
*Адна душа на дваіх — наноў:*
*Мы заслужылі працяг.*

•

*Успомніш, забудзеш, даруеш,*
*пакрыўдзіш, —*
*Усюды жыццё,*
*куды вокам ні кінуць...*
*Куды б ні пайшоў,*
*а ўсё роўна ты прыйдзеш*
*На бераг ракі з адваротнай плынню.*
*Сцежак і трас*
*па жыцці безліч пройдзеш,*
*Дзе будуць і трубы, і лаўры, і міны.*
*І, як ні круці, усё роўна ты ўвойдзеш*
*У воды ракі з адваротнай плынню.*
*Звінячая арыя сонечных промняў,*
*Садоў марсіянскіх,*
*вышынь краявіды,*
*Колькі жывеш, чалавек,*
*столькі помні:*
*Чакае рака з адваротнай плынню.*

Мікола КАНДРАТАЎ

•

*Душа — самотная між рэбраў,*
*нібы ў калысцы немаўля.*
*Ёсць толькі лёс, ёсць толькі неба,*
*а іх апірышчам — зямля.*

*Ёсць шлях, пазначаны ў далонях*
*малюнкам з крыжыкаў і рыс*
*праз светла-грэшнае сягоння,*
*якое "грэюць снегіры".*

*Ёсць позні страх у свеце гэтым —*
*зноў не спазнаць кахання цуд,*
*ні селянінам, ні паэтам*
*не нараджаючыся тут.*

*Ёсць апраўданнем для геройства*
*сумнеўных поглядаў гурма*
*і выйсце, як самазабойства, —*
*прызнацца, што цябе няма.*

Наста КУДАСАВА

### ЗЯЛЁНАЕ ШЧАСЦЕ

*Сёння ў маёй раніцы*
*ўзышло зялёнае сонца.*
*Як няспелае жыццё,*
*як загадзя сарваная суніца.*
*Навошта яно ляжыць*
*пасярод аблокаў,*
*гэтае зялёнае сонца?*
*Як неданошанае дзіця*
*ціш няспраўджаная надзея...*
*Сёння ў маёй галаве*
*мітусяцца зялёныя думкі,*
*Быццам салодкае нясмачнае віно*
*альбо атрута...*
*Навошта яны нарадзіліся*
*гэтыя зялёныя думкі?*
*Як штучнае дыханне,*
*як пяшчотны дотык ляза...*
*Сёння я трымаю ў руках*
*зялёную птушку.*
*Не, гэта не чыюк!*
*Проста, разумееце...*
*Яна павінна быць сіняй...*
*Я так хацела, каб яна была сіняй!*
*Ухапілася за крыло, а яно,*
*як лісце — зялёнае...*
*Нядзейсненая мара,*
*Падманнае шчасце...*

Рагнед МАЛАХОЎСКІ

### АЖЫНА

*Пунсовы месяц дыхае на ўзгоркі,*
*Начны сусвет нібыта ў варажбе.*
*Працягваю далонь да яснай зоркі,*
*Здымаю і кладу ў далонь табе.*

*Лагодны ветрык гойдае нясмела*
*Імгнення асалоды берагі.*



*Душу сагрэе зорка, поўня — цела.*
*Знікаюць моўчкі колеры тугі.*

*Зямляператвараецца ў пярыну,*
*Пад коўдрай-небам*
*мы ў чароўным сне*
*Смакуем пераспелую ажыну,*
*Якой пачаставаў мой лёс мяне.*

*Для нас у танцы кружаць*
*зорак цені,*
*І вогнішча — іскрынак мітусня.*
*У іншым мы прачнёмся вымярэнні.*
*Каханне наша — гэта не хлусня.*

### НЕЗНАЁМАЙ

*Ты ведаеш, па зорцы як раўняцца,*
*А я магу трымацца на хаду.*
*Адчуўшы сэрца стук,*
*свет зменіцца да раніцы.*
*Пакліч мяне — і я цябе знайду.*
*І склаўшы нашы даныя*
*ў бясконцай пустаце,*
*Мы выйдзем на спатканне*
*на патрэбнай частаце.*

Алена БАГАМОЛАВА

•

Шагалу і Віцебску

*Альтанка,*
*Агароджаная калюжамі,*
*Абвітая ружамі,*
*Зашклёная лёднем,*
*Зноў лятала над садам,*
*Кружыла над возерам,*
*Спявала над горадам,*
*Раскідваючы*
*зіхоткія кроплі,*
*Рассяваючы*
*ружовыя пялёсткі,*
*Рассыпаючы*
*чароўныя гукі.*
*Я бачыла...*
*Я чула...*
*Я дакранулася...*
*А Вы?!*

Таццяна БУДОВІЧ

### ІДЭАЛ

I

*Ты прыйшоў і сышоў.*
*Толькі далонь памятае*
*малюнак ліній*
*тваёй далоні,*
*працягнутай для развітання.*
*Ты назаўсёды застаўся*
*трэцім лішнім там,*
*дзе твая прысутнасць*
*найперш пажаданая.*

II

*Адно толькі я хачу —*
*патанчыць з табой.*
*Вальс, блюз, дыска —*
*што заўгодна на твой выбар.*
*На паркеце паміж люстэрак*
*пакінуць*
*мною створаны ідэал —*
*хай шукае сабе дасканаласць.*

Ігар КЛЕПІКАЎ

•

*У павуцінні вуліц безыменных*
*Паменела свабоднае прасторы,*
*Зрывае цені бег гадоў імгненных,*
*Зямля сыходзіць... Застаецца горад.*

*Фантасмагорыя*
*стандартнага бетону,*
*У хвалях нават —*
*стрыжні арматуры,*
*Тут натуральны*
*толькі шэры колер,*
*І выгадна "пад нуль" тварыць фрызуры.*

*Жыцця ранейшага*
*някідкія фрагменты*
*Знікаюць пад тынкоўкаю*
*ды смеццем.*
*Не навучыцца адчуваць*
*сябе цэментам*
*Так хочацца...*
*Каб нават пасля смерці...*

Сяргей ПАТАРАНСКІ

•

*Апошні бляск змяркальнага святла...*
*І восень нацыі — як восень года.*
*Здаецца, абудзілася прырода,*
*паўстала на хвіліну з тла.*
*Прамень апошні,*
*што ты нам нясеш,*
*якой віхурай стане тваё ззянне.*
*Ці ў гэтай восені душа паўстане, —*
*у рэнесансе між нязнаных меж*

*самоты, раўнадушнасці, хлусні,*
*і Госпад падлічыў нам дні,*

*або зіма палоніць свет навек*
*і зімы душаў не адкрыюць Бога?*
*Ды ў вясні новай існага святога*
*Адродзіцца, я веру, чалавек.*

Яўген РАМЯНІЦА

•

*Снег ідзе, снег сыплецца крупой,*
*Замятае даўнія сцяжынкі,*
*Засцілае белай прасцінай*
*Добрыя і дрэнныя учынкі.*

*Сыдзе ўсё: і крыўда, і мана,*
*І змяшаецца, і з хлебам з'есца,*
*А пасля ў зямельку, як здаўна,*
*Слёзамі і потам увальецца.*

Віка ТРЭНАС

### ПУСТОЕ СВЯТЛО

*Пабачыўшы зорку ў нябёсах,*
*Крануўшы рукою,*
*На хмарах прыгожых і крохкіх,*
*Не разам з табою,*
*Ніколі не бачыць святла мне,*
*Не слухаць твой голас,*
*Як колас напоўніцца зернем,*
*Зламаецца колас.*

*Глядзіш ты навокал,*
*а бачыш паветра пустое,*
*Астатнія сны ўсе закрыю сабою,*
*А мо заісное калісьці*
*ды штосьці жывое,*
*Такое, каб можна было захаваць*
*за спіною.*

*Тады я магу*
*ўздыхаць, на жыццё ўміг забыцца,*
*Падумаць пра горкія слёзы*
*і смехам заліцца,*
*Занадта захоплены нечым,*
*прыхільны да цемры,*
*Тады не пабачыш мяне ты,*
*Спужаеш без меры;*

*Ніколі не бачыць святла мне,*
*Не слухаць твой голас,*
*Як колас напоўніцца зернем,*
*Зламаецца колас.*

Аксана СПРЫНЧАН

•

*Нават калі зляцяць у агонь*
*усе лісты, што мы атрымалі,*
*застануцца вершы*
*з тваім дыханнем,*
*напісаныя мной.*
*Нават калі сплывуць па вадзе*
*ўсе словы, вымаўленыя намі,*
*застануцца вершы*
*з тваім дыханнем,*
*напісаныя мной.*
*Нават калі лёс нам*
*пакінуць гэту зямлю,*
*застануцца вершы*
*з тваім дыханнем,*
*напісаныя мной.*
*Нават калі зляцяць у агонь,*
*сплывуць па вадзе,*
*пакінуць гэту зямлю*
*ўсе вершы з тваім дыханнем,*
*напісаныя мной,*
*будзе лягчэй буслам*
*ляцець у паветры,*
*якім калісьці*
*дыхала каханне...*



Апошні раз, як цяпер добра помніцца, Міколу Федзюковіча я пабачыў у рэдакцыі часопіса "Маладосць", куды ён завітаў разам з Пятром Прыходзькам напрыканцы 1996 года, за нейкія два тыдні да сваёй заўчаснай смерці. Усе нядаўнія стрэсы, што апанавалі з розных бакоў, у яго, здавалася, прайшлі, бо выглядаў паэт свежа, спакойна, упэўнена, і размова ў нас па завядзёнцы пачалася пра літаратуру, а тут ён быў вялікім эрудытам, нездарма, яшчэ калі вучыўся ў Літаратурным інстытуце, і выкладчыкі, і самі студэнты паэтычны талент Міколы Федзюковіча, асабліва пасля перакладзенай на рускую мову кнігі "Птичье дерево", цанілі вельмі высока, прынамсі, калі не вышэй, то на ўзроўні знакамітага сёння Юрыя Кузняцова.

Зрэшты, пра сябе, пра сваю творчасць Мікола мала з кім гаварыў, а ў той шэры снежаньскі дзень раптам абмовіўся, што нарэшце пасля зацяжнога душэўнага крызісу закончыў новую кнігу паэзіі і назваў яе дужа хораша — "Красадзён". Тым не менш, у яго ным ціхім і разважлівым голасе прагучала і непрытоеная крыўда, бо ў некаторых рэдакцыях, куды ён перадаваў свае вершы для друку, назву не разумеюць і дзеляць яе на два словы — "Краса дзён", хаця на самой справе красадзён — гэта прыгожая травяністая расліна, звычайная для многіх, асабліва палескіх, мясцін. Канечне ж, не кожны рэдактар дасканала ведае прыроду. Між тым, красадзён, інакш яшчэ і лілейнік, шырока распаўсюджаны ў Беларусі, дасягае аднаго метра ў вышыню, лісце доўгае і завостранае, цвіце ў чэрвені-ліпені, кветка буравата-аранжавая. Да сямейства лілейных, шматгадовых травяністых раслін, адносяцца добра вядомыя нам купена, майскі ландыш. Красадзён, дарэчы, разводзяць як дэкаратыўную і лекавую расліну, так што Мікола Федзюковіч, тонкі знаўца беларускай прыроды, выдатна ведаў, якую назву даў сваёй новай паэтычнай кнізе, і, калі сказаць па-шчыраму, то гэтую кнігу даўно ўжо зачакаліся шматлікія чытачы і проста апантаныя прыхільнікі шчодрага таленту вядомага паэта.

Пытанне сёння толькі ў тым, хто выдасць таленавітую і шматпакутную кнігу? Мяркую, што Міколу Федзюковічу не адмовіць найперш "Мастацкая літаратура", бо ні гэтаму, ні якому іншаму выдавецтву сумленны і сціплы паэт амаль дваццаць гадоў не дакучаў уласнымі рукапісамі. Зразумела, убаку не павінен застацца і Саюз беларускіх пісьменнікаў. У свой час уважлівы і чулы да чужога болю творца багата каму дапамог, прынамсі, сабраў і склаў кнігу вершаў Яўгена Крупенькі, а зараз, як слушна заначыў Уладзімір Паўлаў, варта ўзяцца за ўпарадкаванне спадчыны самога Міколы Федзюковіча, які, акрамя вершаў, пісаў яшчэ гумарыстычныя і сатырычныя творы, шмат перакладаў з іншых моў. Будзем, аднак, спадзявацца, што "Красадзён" усё ж расцвіце неўзабаве яркімі і прыгожымі кветкамі, паўстане перад чытачамі ў сваёй арганічнай свежасці, душэўнай узрушанасці і мастацкай дасканаласці.



Вось яшчэ, быццам пацвярджэнне, гаркотна-самотныя, фатальныя два радкі: "Няхай ляцяць імгненні, як часіны! // Учора — ты, назаўтра я памру..." На гэтых вершах, якія наш сябар рыхтаваў спецыяльна для "Чырвонай змены", стаіць дата: 31.12.1996 г., а роўна праз тыдзень, на Ражство Хрыстова, сэрца Міколы Федзюковіча перастала біцца. У той самы дзень, калі хавалі слыннага беларускага паэта, надвор'е стаяла халоднае, сырое, пахмурнае. І, на здзіўленне, згадваліся ягоныя жыццесцвярджальныя, поўныя аптымізму строфы:

*Мяне паклікаў жураўліны вырай —*
*у вёску,*
*на радзіму..*
*Там — вясна!*
*Там навальніцай хмара прарасла,*
*Каб красавалі нівы яравыя.*

Вясну Мікола Федзюковіч дужа любіў. Любіў майскія навальніцы, калі "і вербы, і зялёныя барозы схілялі ветла вецце перад ветрам". Нездарма паэт і нарадзіўся ў маі, калі пачынае зацвітаць чаромха, а над вясёлым прыволлем ціха пагрымлівае маладзіковы гром. На жаль, той жураўліны вырай, які заўчасна паклікаў творцу за сабой, ужо не вяртаецца "у край буслоў, калін і медуніц".

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

*НА ЗДЫМКАХ: Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ; сустрэча з чытачамі на Беларускім тэлецэнтры, з Міколам ТРАФІМЧУКОМ.*

# ФЭСТ НА РАДЗІМЕ ПАЭТА

Паэты сустрэліся дзіўным чынам непрадказальна. Да гэтага яны ведалі адзін другога па творчасці ды па перапісцы. Пачынаючы паэт з вёскі дасылаў сталічнаму паэту-мэтру свае зарыфмаваныя спробы. Той у сваю чаргу падхвальваў маладога земляка і рыхтаваў падборку ягоных вершаў у рэспубліканскай газеце "Чырвоная змена". Сталічны паэт меў за плячыма армію, Літаратурны інстытут імя Горкага, што ў Маскве, дзве кніжкі вершаў, прызнанне. Яго малодшы сабрат апрача таго, што нядаўна вярнуўся з арміі, вучыўся завочна на філфаку Брэсцкага педінстытута і адначасна працаваў настаўнікам у вясковай школе. Вершы яго друкаваліся толькі ў раённай ды абласной газетах, праўда гучалі, і неадночы, па рэспубліканскім радыё.

Гэта было ў пачатку 70-х. Мікола Федзюковіч шмат ездзіў па Беларусі, пісаў нарысы і рэпартажы з маладзёжных будоўляў, выступаў з імі ў рэспубліканскім друку, на радыё. Калі бываў у камандзіроўках на Палессі, абавязкова хоць на дзень-два заязджаў на радзіму, да маці, у вёску Гутава. У адну з такіх камандзіровак і нарадзіліся радкі:

***Дзень веснавога раўнадзенства —***
***безліч фарбаў на дне вачэй.***
***Мне нікуды ад іх не дзецца,***
***Я да іх не прывык яшчэ!..***

У адну з такіх камандзіровак і адбылася гэтая нечакана-выпадковая сустрэча. На аўтастанцыі ў Драгічыне пачынаючы паэт пазнаў у адным з сотні незнаёмых свайго славутага земляка, вядомага беларускага паэта.

— Федзюковіч? — запытаў ён маладога мужчыну, які толькі што размаўляў з вясковым мужыком пра тое, што вырашыў па дарозе ў Мінск заехаць да маці.

— Трафімчук? — такім жа чынам здагадаўся той.

Як усё аказалася проста! І як усё пасля перамянілася ў жыцці вясковага настаўніка і пачынаючага паэта!

...Гадоў праз дваццаць колішні пачынаючы паэт працаваў ужо у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў БССР у Мінску, маючы дзве паэтычныя кніжкі. Знакаміты яго сябар і паэт-зямляк жыў з васьмідзесяцігадовай матуляй, якую забраў нарэшце з вёскі даглядаць, бо быў апошнім і адзіным. Жыў побач, па мерках вялікага горада, зрэдку запрашаў у госці, часам малодшы зямляк сам тэлефанаваў яму, праўда, яшчэ радзей бываў запрошаным. Словам, сустракаліся яны цяпер рэдка. А з тае пары, як паэт забраў да сябе матулю, ён усё часцей адмаўляўся ад камандзіровак Бюро прапаганды СП, якія ўвесь час прапаноўваў яму яго малодшы сябар. Пачыналіся праблемы са здароўем маці, з яго ўласным настроем і здароўем...

Сваё 50-годдзе Мікола Федзюковіч сустрэў сціпла і ніякавата. На прапановы з Бюро прапаганды малодшага сябра і земляка арганізаваць юбілейную вечарыну ў сталічным Доме літаратара ўсё аднекваўся. На радзіме таксама не захацеў быць ушанаваным.

Свята паэзіі славутага земляка (калі яго можна назваць "святам"), адбылося з нагоды яго 55-годдзя на радзіме, у Гутава, у школе, якую ён калісьці закончыў. Ужо без самога паэта. За два гады да гэтага ён нібы адчуваў, што так яно і будзе. Усім, хто сустракаўся з ім у апошнія гады, сцвярджаў, што не стане яго, як і многіх вядомых паэтаў, у 53...

Хутка міне 60. Без яго — сем. На радзіме паэта вясна. Адышоў сакавік, красавік, буяе травень-май. Набліжаецца час паэтычнага фэсту — Свята паэзіі паэта-земляка. Хай бы яно стала штогадовым, традыцыйным. Так ЯГО нам усім не хапае!



## ТРАВЕНЬ У ГУТАВА

*Фэст на радзіме паэта.*
*Травень. Буяе трава.*
*Завязь налівае, ранетаў.*
*Кружыцца галава...*

*Дзетак выводзіць бусліха —*
*Днямі ў буслянцы адна...*
*Год шэсцьдзесят ужо ціха...*
*Край абмінае вайна.*

*Хоць і бяда не мінае*
*Вёсачкі гэтай святой...*
*Край земляка ўспамінае*
*Пад паэтычны настрой.*

*Не! Тут не ўсё шчэ апета.*
*Душаў людскіх не суняць!*
*Фэст на радзіме паэта.*
*Травы, як рыфмы, звіняць...*

**Мікола ТРАФІМЧУК**

**ЛІМ-ЧАСАПІС**

## СВЯТА КАЛАСКОЎЦАЎ

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылося ўрачыстае свята прыёму дзяцей-другакласнікаў у дзіцячае аб'яднанне "Каласкоўцы", арганізаванае СШ № 68 Заводскага раёна г. Мінска.**

**Удзельнікі гэтага мерапрыемства, вучні 4-х класаў, з вялікай цікавасцю расказвалі сваім малодшым сябрам з 2-га класа пра арганізацыю, яе статут, дзейнасць і асноўныя накірункі іх працы ў каласкоўцах.**

**Усім, і другакласнікам, і старэйшым навуковым супрацоўнікам музея, было цікава паслухаць, чым займаюцца гэтыя каласочкі, чаму вучацца ў гэтым жыцці. З вялікай увагай усе мы слухалі аб іх вандроўках па краіне, аб вывучэнні роднага краю, мовы, творчай спадчыны — неацэнных скарбаў нашай Радзімы.**

**І невыпадкова, што гэтае ўрачыстае свята прайшло ў музеі народнага Песняра — Якуба Коласа. Сама назва аб'яднання "Каласкоўцы" (у першай частцы слова) сугучна з імем (псеўдонімам) паэта: "Колас, Каласок..."**

**Дзецьмі-каласкоўцамі была падрыхтавана і цікавая святочная праграма. Усіх уразілі вершы, якія яны напісалі і прадэкламавалі, гучалі беларускія песні.**

**А павіншаваць і выступіць перад дзецьмі прыйшлі пісьменнікі: Уладзімір Мазго і Іван Курбека, які з'яўляецца яшчэ і старэйшым навуковым супрацоўнікам музея. Яны прачыталі свае творы...**

**Напрыканцы гэтага свята маленькім каласочкам, унукам Коласа, былі ўручаны значкі з сімвалічнай эмблемай. Атрымалі ўсе і сувеніры — падарункі ад Дзяржаўнага мемарыяльнага музея імя Я. Коласа.**

**Т. БІБІЛА**

## ПАЭЗІЯ ЗА СТО ГАДОЎ

**У філіяле Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка" 15 мая адбылася сустрэча з паэтам, парадыстам, папулярызатарам паэтычнай спадчыны беларусаў Міхасём Скоблам, складальнікам анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя, якая зусім нядаўна выйшла ў выдавецтве "Лімарыус". Гэта першая грунтоўная аўтарская анталогія стала вынікам шматгадовай рупнай працы М. Скоблы.**

**Падчас сустрэчы з сябрамі клуба "Беларуская хатка" М. Скобла шчыра падзяліўся сваімі задумамі і памкненнямі, радасцямі і турботамі, планамі на будучыню.**

**У вечарыне прымалі ўдзел паэты: Анатоль Вярцінскі, Валянціна Аксак і Рыгор Сітніца. Яны пазнаёмілі прысутных са сваімі новымі творамі, якія, магчыма, з цягам часу, упрыгожаць будучую анталогію беларускай паэзіі XXI стагоддзя.**

**Т. ШЭЛЯГОВІЧ**

## ГІСТОРЫЯ Ў АСОБАХ

**У Мінскім гарадскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 133, дзякуючы загадчыцы мясцовай бібліятэкі Рэгіне Корзнікавай, рэгулярна праходзяць сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі. Толькі ў апошні час гасцямі будучых машынабудаўнікоў былі Алесь Савіцкі, Генадзь Пашкоў, Міхась Пазнякоў і іншыя.**

**Нядаўна ж сюды завітаў Алесь Марціновіч. Сустрэча была прысвечана яго кнізе "Элегіі забытых дарог" — пятай з серыі "Хто мы, адкуль мы", над якой А. Марціновіч працуе не адзін дзесятак гадоў, тым самым ствараючы своеасаблівую гісторыю Беларусі ў асобах. І ў згаданай кнізе таксама прадстаўлены тыя, кім па праве ганарыцца Бацькаўшчына. Гэта — першаадкрывальнікі Чукоткі і Курыльскіх астравоў Д. Паўлуцкі і І. Казырэўскі, герої Сербіі і Балгарыі М. Чарняеў і І. Гурка, першы санскрытолаг Расіі К. Касовіч, мастак В. Ваньковіч, аўтар тувінскай азбукі А. Пальмбах, "бацька" рускай фіталогіі Д. Кайгародаў і іншыя.**

**Навучэнцы падрыхтавалі кампазіцыю па гэтай кнізе, а сам аўтар адказаў на іх шматлікія пытанні, у тым ліку падзяліўся і творчымі планамі, а яшчэ падарыў "Элегіі забытых дарог" з аўтографам бібліятэцы вучылішча.**

**Н. К.**

